# Гарэза

Сяргей Гудзілін піша Сяргею Міхалку.





Газета выйдзе толькі заўтра, але гэты тэкст ты чытаеш ужо цяпер. І калі яны тармазнуць наклад у друкарні ці проста адмовяцца яго друкаваць, то я ўжо іх апярэдзіў. Гэта не вельмі медыйна, але гэта спрацоўвае. Але ініцыятыва ўчынку за мной. І абавязкова купі газету заўтра пасля абеду. Бо ты ўсё роўна згубіш гэты лінк у закладках. Проста я не хачу працаваць у газеце, якую ніхто не чытае. І ўжо позна пісаць беларусам у Беларусь з Таронта і Варшавы. Я сам для сябе ўсё вырашыў. Побач са мной мая жонка і дзеці, мае аднадумцы і спантанныя пацаны на раёне. І вашыя кніжкі і адозвы мне дапамаглі. Усё не дарэмна, але працуе не так.
А тут яшчэ гэты Brutto. Хлопцы, вы зразумелі, што адбылося? Сярога абнуліўся. Як рабіў гэта не адзін раз, ператварыўшы этапы свайго жыцця ў арт-праекты. У 93-м, яго, у дровы п'янага, неслі па Жодзіне пацаны пасля футбола. Ён не стаў з гэтым жыць, а проста кінуў. А ён бы мог не рабіць нічога, змірыцца з «Ляпісамі», цягаць нас праз акропалісы на канцэрты ў Вільню, бо тут іх усё роўна не дадуць правесці. І ўсе б былі задаволеныя. А можа, яму трэба было зрабіць тур для беларусаў замежжа? Ці граць у Чыжа на карпаратыве за неслабое бабло? Вы гэтага б хацелі…

Але ён зразумеў, што пара скончаць, трэба абнуляцца і гуляць па-іншаму, але тое самае. Ён паклікаў нас у качалку і на турнік. І ведаеце — гэта самае геніяльнае і простае, што можа адбывацца ў гэтым дурдоме, дзе нічога нельга. Гэта круты арт-праект, які можа адрадзіць нацыю. Не верыце? А вось зрабіце 2 па 10.
Ён сышоў у качалку да сяброў. Спявае з імі пра гантэлі і пра бокс. Ён сышоў у андэграўнд з андэграўнду. Яго задзяўбло граць па 30 канцэртаў на месяц на 1/6 частцы сушы. Ён вярнуўся. Не, гэта не пра Зянона, адчапіцеся. Ён прыйшоў без гэтых грабляў у руках, на якія мы так любім наступаць. Ён паспрабаваў нешта з «Маніфестам». А цяпер ён прыйшоў да нас як трэнер. Гэта тое, чаго не хапала Беларусі ўжо даўно. Тут былі прарокі, рэвалюцыянеры, кандыдаты ў прэзідэнты і адзіныя кандыдаты ў прэзідэнты. Але трэнера не было. Гэта новы арт-праект. І ён дасць беларусу тое, чаго ніколі не даваў ніводны пясняр.

Brutto вяртае беларусу цела. Блін, сябры, ну не крута, га? Беларускаму мужыку — вярнуць яго беларускае цела, найлепшыя сябры якога — гантэлі і турнік. Па сталіцы тваёй краіны ходзяць дагледжаныя туркі ці італьянцы, а з'язджаюць адсюль з гонарам, што прыдбалі тое, што ў прынцыпе можа належаць табе. І таму на нашых вуліцах усё чыста, дафіга жаночай прыгажосці і мала мясцовых мужыкоў. Таму што адны мужыкі замыкаюцца ў сваіх рэзідэнцыях, а іншыя з пультам ад тэлевізара бухаюць на кухні.
А цяпер да Міхалка. Я хачу пагаварыць з ім проста зараз. У панядзелак ты кінуў выклік свайму пакаленню. Ты скалаціў крутую банду, запусціў свой праект і падкінуў мне нармальнага музла для турнічка. Ты папрасіў рэагаваць на гэта. Ок, але я таксама адсюль. І ты не ўлічыў, што тваё пакаленне ўжо не будзе на цябе рэагаваць. Ты проста з ім памыліўся. Я маладзейшы, і глядзі, што я падрыхтаваў для цябе. Твайму праекту два тыдні, а майму — тыдзень. Тыдзень таму на выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі ананімная супрацоўніца проста адцэнзуравала мае працы. Замазала на фота квадрат фарбай. Усё, клініка! Мне сарвала гайкі. Я прынёс у Мастацкі музей (!) сваё мастацтва з вуліцы, дзе супрацоўнік ЖКГ валіць арт круцей за Малевіча, але сістэма паспрабавала яго абнуліць. Проста супрацоўніца музея ў адзін момант стала супрацоўніцай ЖКГ і паказала нам рэкурсію. Проста ў адзін момант музей ператварыўся ў вуліцу. Проста, як табе на канцэрце рубанулі святло…
Храм мастацтва пераўтварыўся ў дурдом. Што я павінен быў рабіць? Пазваць журналістаў, збіраць подпісы ў Саюзе мастакоў, зняцца з выставы? Але трэба было нечым адказваць. Трэ' было падыграць і зламаць чужы арт-праект, запусціўшы свой. І я пачаў гуляць. Я не забіў на тых людзей, якія мне паверылі. І няважна, што яны робяць праект у гэтым дзяржаўным музеі, які ўжо і не музей даўно. Бо сістэма абнуліла яго функцыю і задала іншую. Яны выцягнулі мяне з майго гета і прыцягнулі ў сваё. І я ім падыграў і пагадзіўся. Гэта было б тое сама, каб ты, Сярога, узяў з сабой комбік і сам прыехаў граць свайго «Гарэзу» на «Дажынкі» ў Пінск. Але ты, канечне ж, туды не паедзеш, ты, завалены мной, на падлозе свайго андэграўнду. Ты ўжо прапусціў адзін удар ад мяне ў гэтым арт-баі. Што было далей, Сярога? Я не стаў іграць твой праект і не папёрся на сцэну на адкрыцці музея: я не музыка і мне на сцэне не камфортна.

Проста там стаялі гэтыя дзядзькі-мастакі, якія таксама згадзіліся на ўдзел. Проста там стаяў адзін алігарх, які фінансаваў гэтую выставу, і адзін чыноўнік з Мінкульту, які забараняў твае канцэрты. Сярога, ты чуеш гэта, лежачы там на падлозе? Проста сістэма зламалася, і я ёй падыграў. Проста мой праект, праект такога ж андэрдога, як і ты, прафінансаваў алігарх і мяне запрасілі ў Нацыянальны музей у мае 27 на выставу з барадатымі дзядзькамі за 50. Проста сістэма так спрацавала, і я аказаўся ў патрэбным кантэксце. Проста там адбыўся сістэмны злом і сістэма пачала капіяваць сама сябе — проста нехта замаляваў графіці на фота, на якім замалёўваюць графіці…

Сярога, ты думаеш, што прыплыў з братвой на востраў? Але гэта не востраў, гэта архіпелаг, і ён даўно ўжо заселены. І я даўно тут жыву, тут даўно мой праект. І я яго своечасова перафарматаваў і падключыў да твайго, а можа, я скраў твой праект і ўключыў у свой? Ты выдумаў гэты востраў, паставіў там з сябрамі свой рынг, але не ўлічыў адной важнай штукі. Ты не прыйшоў са свайго старога праекта з новым у абсалютны вакуум. Але табе прыемна адчуваць, што ты знаходзішся ў сістэме з блізкімі табе людзьмі. Ты можаш гуляць у свой андэграўнд далей, але гэта не будзе новым. Тут усе гуляюць свае андэграўндныя праекты. І ў гэтым уся праблема. Сядзець у сваіх праектах утульна і нармальна. Проста таму, што туды не залятае ўсякая фігня з іншай сістэмы. Проста таму, што гэта твой праект і ты яго кантралюеш — ты яго гаспадар і ўсё робіш правільна. І ты думаеш: гэтага ўжо дастаткова?

Твой бокс у 40 гадоў — гэта не мая лёгкая атлетыка ў 27. Ты прыйшоў у спорт з андэграўнду, а я прыйшоў у андэграўнд са спорту. Бачыш, як тут можна ўсё круціць? Што ты будзеш з гэтым рабіць, Сярога? Ты ўжо валяешся ў накдаўне. Ты гэтага не чакаў? Ты кінуў выклік свайму пакаленню, а табе адказала зусім іншае.  Але гэта логіка спорту — у 27-гадовага больш шанцаў заваліць гэтага дзядзьку, якому за 40. Гэта проста лагічна. Змірыся з тым, што ты прасраў сваю маладосць, але паспееў пасля 30 абнуліцца і пражыць гэта яшчэ раз. А я і не губляў, мая маладосць тут са мной, і я яе танцую. За 20 гадоў ты зрабіў 3 крутыя праекты. Але я за тры ўжо запусціў 10 сваіх. І яны гуляюць і рэкурсуюць маімі ідэямі ў розных сістэмах. Мяне запрашаюць на выставы ў дзяржаўныя музеі. Я развaліў усе кантэксты вакол сябе, выдумаў заблытаныя праекты, і сістэма, якая варожая для мяне, ужо не можа мяне згуляць і надбудаваць нешта нада мной. Найлепшы часопіс свету па фатаграфіі ўключае мяне ў ТОП-30 маладых і перспектыўных фатографаў. Каго? Гэтага андэрдога з занядбанага краю? А зімой у амерыканскім National Geographic публікуецца мая карцінка пра Беларусь. І так, у мяне ўсё добра. Маёй жонцы з маімі дзецьмі зайздросцяць іншыя мамачкі з нашай пясочніцы на раёне. Але ў нас таксама шмат бытавухі, і мы не ведаем, як жа нам для шчасця паставіць гэтую дурную шафу ў нашай паўтарачцы. І што, ты зноў клічаш мяне ў свой андэграўнд?
Ты яшчэ ляжыш і аддыхваешся. Старычок, ты думаеш, я не считаў лога твайго новага праекта з малпай і гантэлькамі? Ты думаў, што ты гэта прыдумаў? Я ўжо даўно тут так жыву — як малпа сярод людзей і як чалавек сярод малпаў. Я проста хутчэй пераключаюся кантэкстамі, выпадаю, абнуляюся і раблю гэта часам спецыяльна, каб падыграць. Няважна, чый ён — я магу з ім гуляць.

У мяне дастаткова мускулаў, пра якія ты спяваеш, але яшчэ больш мазгоў, якія ты не ўлічваеш. Ды паляжы, аддыхайся, яшчэ ёсць час і ты не прайграў. У нас проста спарынг. Проста ў гэтым баі ініцыятыва ў мяне, і ты ўжо «паплыў». Што ты з гэтым зробіш і хто табе дапаможа? Твой секундант Антон Кашлікаў, які тыпу ўчора ўзяў у цябе інтэрв'ю? Блін, рабяты, не ганіце мне і, Антон, не гуляй так фігова гэтую ролю журналіста, табе не дадуць за гэта прэмію, таму што я яе ўжо адабраў. Тыпу ты пазваніў Міхалку і тыпу ён табе даў інтэрв'ю? Не ганіце мне, чуеце? Я ведаю, што тут усё па-іншаму. Вы адна тусоўка, і Міхалок проста падключыў цябе да свайго Brutto. Проста вы некалі пазнаёміліся і проста вам прыкольна нешта муціць разам. Сярога, ты яшчэ паляжы, ты падыхай глыбей. І Антон, не трэба было ў канцы тэксту падпісваць сваё аўтарства прыгожым шрыфтам. Гэта адзін фіг не журналістыка. Гэта найпаўнейшае УГ у чужым арт-праекце. Хочаш потым уставіць такія ўчынкі ў сваё CV? Я цябе абнуліў, лепш бы ты падпісаўся Антон Матолька і зламаў мяне. Але я цябе перайграў і недзе там, у нізе, на падлозе, Міхалок.

Вы можаце яшчэ раз у «Першаку» выкласці яшчэ адзін альбом Brutto, ён мо і будзе круцейшы за першы і ты можаш праз тыдзень зноў тыпу пазваніць Міхалку. Вы стартанулі крутым праектам, але не заўважылі ўмоваў, якія могуць яго абнуліць і зрабіць падобным да кучы іншых. Як так выйшла?
Сярога, можаш устаць. Бо быў гонг, і ты зараз зразумееш, што адбылося і пачнецца другі раўнд. Я проста даў яму скончыцца, каб ты перадыхнуў. Я забраў твой праект і запакаваў у свой. У суботу я схадзіў на канцэрт мінскага «Партызана» і разыграў яшчэ адзін міні-праект. Я зняў там прыкольную карцінку з гэтымі гарэзамі. Гэтая карцінка пра іх маладосць, якую ты, Сярога, тупа прабухаў. Я сам паставіў яе на першую паласу «Нашай Нівы». Я сам прыдумаў такі загаловак з тваёй песні. Я сам, як апошні бухар з ЖЭСа, адцэнзураваў публічнасць тых гарэзаў і хуліганаў і прымаляваў там рознакаляровыя простакутнічкі. Ты думаеш, я проста пераносіў адзін праект на другі? Хо-хо. Я ведаю, што тыя рабяты з карцінкі таксама і твае рабяты. Але яны граюць у сваім праекце, і я яго не хачу парушаць. Я не хачу іх падстаўляць, «паліць» іх для КДБ ці пацаноў з менскага ці жодзінскага «Тарпеда». Я проста зрабіў разумней. За дзень да гэтага, у пятніцу ці чацвер мінулага тыдня, я зразумеў, што я такі самы, як і ты, а ты такі самы, як і я. І мне захацелася табе падгуляць. Я прыдумаў кліп для Brutto і захацеў сыграць у ім галоўную ролю. Проста ў маім арт-праекце склаўся гатовы сцэнар. Проста побач са мной былі людзі, каторыя мне паверылі і таксама, як і я, выпалі са сваіх праектаў і падключыліся да майго. Так, гэта таксама арт-праект, я яго проста вынес з іншага. З таго дурнога, які абнуліўся ў музейным храме ЖКГ. Я сам напісаў твайму сябру Гуркову пра гэта ў Фэйсбук. Бо, у прынцыпе, ён мой сябар таксама, але я не дарэмна траціў гэтыя гады, калі сядзеў і пісаў усякую фігню ў сацыяльныя сеткі. Я проста збіраў там людзей для сваіх праектаў. Гэта было прасцей, чым шляцца да іх у розныя гета. Некаторыя з іх мне паверылі, і мы ўсё выдатна зрабілі, абставіўшы ўсіх. І ўчора, пасля твайго інтэрв'ю Кашлікаву, Гуркоў даслаў мне паведамленне ў фб, каб я адправіў ідэю кліпа на bruttoband@gmail.com. Сярога, гэта ўжо другі накдаўн у гэтым бай. Я не буду туды пісаць.

Твой Brutto — гэта «Since 2014», а мая «Наша Ніва» — гэта «Since 1906». І я не проста так гэта ўсё замуціў. І ты не проста так спяваў песню на словы аднаго чувака, які працаваў тут галоўным рэдактарам сто гадоў таму. Я не проста так пішу гэты тэкст паверх фатаграфіі самога ж сябе, якую я разваліў на ўсю паласу. На ёй я дэманструю свае арт-праекты, падыгрываю і абнуляю. А карцінка ўвогуле была знятая больш за год таму. Не верыш? Правер гэта ў маім інстаграме. І ўсё склалася. Усё спрацавала. Нічога не дарэмна. І твой Brutto ўжо тут, я адабраў яго ў цябе і ўключыў у свой праект. Што ты будзеш з гэтым рабіць? Ты заўтра здымаеш свой чарговы кліп для Brutto. Адкуль я гэта ведаю? Ты мне гэтага не казаў. Я нашмат бліжэй да цябе, чым ты думаеш. Проста паглядзі на здымак і глянь, у якім шмоце я ганяю і хто яго робіць. Навошта я закрыў твар кнігай? Гэта проста іншы арт-праект. Праз два тыдні я лячу адкрываць яго з маімі сябрамі ў Берлін. А за спінай размаляваная сценачка — гэты праект вісіць цяпер у Мастацкім музеі. Хочаш расказаць мне пра аўтаномнае дзеянне? Ты ўжо вылецеў за канаты. Сярога, гэта накдаўн пры канцы другога раўнда. Ты не ведаеш, як мне гэта ўсё ўдалося, а я ўжо ведаю, што ты будзеш рабіць заўтра. Ты паставіў свой рынг на маім востраве. Ты падумаў, што зваліў ад усіх у свой новы андэграўнд на пусты востраў, а я яго абнуліў і кажу, што гэта ўжо не востраў, гэта цэлая краіна, і тут не ўсё ок, але я ўжо ведаю, як тут можна дзейнічаць. Учора ты кінуў выклік і абазваў мяне каментатарам тутбай і інтэлігентным цярпілам. А сёння ты валяешся за канатамі і сам стаў на маё месца. Ты можаш гэта толькі адкаменціць ці раструшчыць манітор. А газета з гэтым тэкстам выйдзе толькі заўтра, і ты нават не можаш яе парваць. Бачыш, як гэты андэрдог, з такім жа імем, як у цябе, усё тут разыграў? Што ты будзеш рабіць далей? Запішаш відос на тэлефон са свайго дома? Не, ты прайграў. Пагадзіся з гэтым. Ты так гучна сюды прыйшоў, што цябе трэба было проста і па-гарэзліваму абламаць. Але я не стаў ператварацца ў каментатара. І заўтра пасля здымак кліпа ты прыедзеш да мяне ў рэдакцыю, занюхнеш майго андэграўнду і паслухаеш, якую крутую ідэю я табе прапаную. Бо ты на маім востраве, сёння ты прайграў, і я дапамог табе ў гэтым і твой бой у адказ будзе ўжо на маёй тэрыторыі. Я зблытаў твой праект са сваім. Бо нам тут не падкінуць нейкага іншага выбару і мы будзем муціць арт, як гарэзы. І так, давай зробім прыгожа, і мне ў фб напіша Гуркоў і скажа, у колькі ты прыйдзеш. Бо я таксама круты андэрдог, і ў мяне заўтра а 14-й размова з кіраўніцтвам аднаго банка, які будзе купляць у мяне прынты. Усё, можаш не чытаць гэты тэкст да канца.

Проста калі мы ўсе звалім з гэтай краіны ў свае гета, то тут стане тупа і паныла. Тут будуць вечныя дажынкі і дні горада. І «Панарама» а 21.00. І нам нічога больш не застаецца, як гуляць ва ўсё гэта і гарэзіць. І нікога ўжо не трэба пераконваць і трансляваць нашы сэнсы. Мы ўвогуле можам тупа замаўчаць, і яны самі прыйдуць да нас. Бо мы проста круцейшыя за іх, бо ім будзе проста прыемна стаяць побач з намі.

Гэты тэкст не мог напісаць Віця Марціновіч ці Альгерд Бахарэвіч. Яго напісаў беларускі фатограф з Жодзіна, які за тры гады ў «першай беларускай газэце з рысункамі» выдумаў сабе кучу ўсяго. Дзякуючы гэтай краіне і яе людзям. Дзякуючы іх апантанасці і дурноце. Бо, Віця, у мяне няма свайго трэнера па ёзе. У мяне проста ў двары рэдакцыі на вуліцы Залатая Горка ё турнік, і я толькі што зрабіў на ім сем падцягванняў і як мужык напісаў табе гэта. Я мог бы сказаць гэта на прэзентацыі тваёй кніжкі ў «Ў» пад белы вінчык, але там бы гэта выглядала поўнай фігнёй. Выбачаюся, Віктар, што так проста і неафіцыйна, але ты з Альгердам таксама тусіш у мяне на раёнчыку. Вы пішаце свае кніжкі, робіце прэзентацыі, на якія ходзяць адны і тыя ж людзі, і сварыцеся ў сваім літаратурным палісадніку. Усё ок, так павінна быць. І ўсяго гэтага ўжо дастаткова і зашмат, каб пацаны вас не кінулі. Але трэба абнуляць і трапляць у іншы кантэкст. Па-іншаму з гэтага дурдома — ніяк. Ну, і турнічок таксама. Гэта прапанова падыграць арт-праекту Міхалка. І гэта не значыць, што я не вып'ю з табой дзе-небудзь 2 па 50 за беларушчыну. Проста цяпер працуе фармат 2 па 10, а не 2 па 50. І яго трэба гуляць і зацыкліваць.

Я закалябаўся чакаць нейкай там міфічнай Плошчы, каб гэта ўсё вам сказаць. Я абнуліўся настолькі, што перайграў гэты дурдом, які падаваўся мне музеем. Хлопчыкі і дзяўчынкі, я дэманструю моц беларускай культуры, яе сувязь з рэальнымі людзьмі і неадарванасць ад жыцця. Тую сістэму, якую выбудавала гэтае культурнае гета для нас саміх. Окей, мы гэтае месца не выбіралі… А вы скажаце: «Хлопча, што ты вярзеш? Ты аб'еўся спайсаў? Які арт-праект года? Тут дыктатура, крывавы рэжым і гаротная старонка». І я вам адкажу толькі адно: так, тут не дыктатура, тут неаранае поле арт-праектаў. Але трэба займацца тым жа самым, паглядзеўшы на калантытул зверху. Я цябе абнуліў. Дайце мне прэмію за арт-праект года.

# Таямніцы «Усхода»

Афшорныя фонды валодаюць **загадкавай рэзідэнцыяй** на некалькі сем'яў на беразе Заслаўскага вадасховішча.

Беларускія высокія чыноўнікі не любяць жыць побач з простымі грамадзянамі. Яны з радасцю пасяліліся ў выдзеленым ім раёне ў Драздах. Але кожны ахвотны можа паглядзець на дамы, якія належаць, напрыклад, прэм'ер-міністру Міхаілу Мясніковічу ці міністру замежных спраў Уладзіміру Макею. Ніякай таямніцы няма — ні высачэзных плотаў, ні аховы.

Ад выпадковых мінакоў спецслужбы хаваюць толькі афіцыйныя рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. Іх статус прадугледжвае закрытасць ад чужых вачэй — кантрольна-прапускныя пункты, калючы дрот, відэаназіранне...

Закрытымі ад грамадскасці застаюцца таксама звесткі пра тое, дзе і як жывуць сыны Аляксандра Лукашэнкі.

Перад кожнымі чарговымі прэзідэнцкімі выбарамі Аляксандр Лукашэнка мусіць перадаваць у Цэнтрвыбаркам дэкларацыю аб сваіх даходах, а таксама аб даходах тых, з кім ён пражывае. У 2006-м у дакумент былі запісаныя сыны Віктар і Дзмітрый. Паводле дэкларацыі, ніякай нерухомасці яны не мелі.

У аналагічным дакуменце за 2010-ы год з'явіўся малодшы сын Мікалай (дарэчы, народжаны ў 2004-м), але зніклі Віктар і Дзмітрый. Значыцца, старэйшы і сярэдні сыны сталі жыць асобна. Дзе? Невядома.

Абодва яны шматдзетныя бацькі, таму маглі б прэтэндаваць як мінімум на хуткае будаўніцтва кватэраў у спальных раёнах Мінска. Аднак у Каменнай Горцы, дзе найчасцей даюць такое жыллё, іх ніхто не бачыў.

Сярод уплывовых прадстаўнікоў беларускай улады і іншых асобаў, набліжаных да Аляксандра Лукашэнкі, магчымасць пабудаваць жыллё ў Драздах і Вяснінцы атрымалі амаль усе. Але і там прозвішча «Лукашэнка» сярод уласнікаў няма.

У сапраўды прававой рэспубліцы выключэнняў не павінна быць ні для каго, нават для кіраўніка дзяржавы і ягонай сям'і. Так, патрэбы бяспекі дыктуюць неабходнасць закрыцця пэўнай інфармацыі пра некаторых асобаў і некаторыя аб'екты ўласнасці. Але без перабору.

Між тым у Беларусі ёсць зоны выключэння, зоны сакрэтнасці і таямніцы. Адна з такіх — жылы комплекс «Усход», які знаходзіцца на беразе Заслаўскага вадасховішча, упрытык з дзяржаўнай рэзідэнцыяй «Заслаўе-1».

### Хто будаваў?

«Усход» раскінуўся больш чым на 17 гектарах зямлі. За савецкімі часамі тут знаходзіўся піянерскі лагер, які з цягам часу прыйшоў у заняпад.

Як гэтая зямля дасталася новым гаспадарам? 15 лютага 2008 года была заключаная дамова купліпродажу сямі гектараў зямлі паміж РУП «Белспецкантракт» і СТАА «УсходБуд».

Што такое «Белспецкантракт»? Гэта арганізацыя, якая распрадае непатрэбныя матэрыяльныя рэсурсы Узброеных сілаў. Напрыклад, на сайце арганізацыі апублікаваныя «прапановы дня»: салдацкая плашчпалатка 1980 года ці нацельныя салдацкія кальсоны 1984 года.

Купец, кампанія «УсходБуд», была створаная за два месяцы да ўгоды. Апроч «Усхода», яна не рэалізоўвала больш ніводнага праекта. Наконт яе заснавальнікаў нічога не паведамлялася, але кампанія была зарэгістраваная па тым самым юрыдычным адрасе, што і «ІтэраБелБуд». А гэта дачыная кампанія расійскай газавай імперыі «Ітэра».

Яе заснавальнік, мільярдэр Ігар Макараў, ад пачатку 1990-х займаўся продажам газу, а пасля і яго здабычай. «Ітэра» шчыльна супрацоўнічала з Беларуссю, нават пабудавала ў Магілёве завод па выпуску пластыкавага посуду. А самога Макарава, які называе Беларусь другой радзімай, Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны.

Газ прыносіў мільярдэру найбольшыя прыбыткі, і гэтыя грошы ён укладаў у будаўніцтва. Самым амбітным праектам «Ітэры» ў Беларусі меўся стаць «Мінск-Сіці». Расейцы абяцалі ўкласці ў будоўлю дзелавога цэнтра да $30 мільярдаў! Праект быў ухвалены Аляксандрам Лукашэнкам у сярэдзіне 2007 года. Праўда, праз некалькі гадоў ён быў завалены, і з інвестарам развіталіся. Прыкладна тады ж у Расіі «Ітэры» абрэзалі доступ да газу.

Астатнія 10 гектараў зямлі для будаўніцтва жыллёвага комплексу «УсходБуд» атрымаў рашэннем Мінаблвыканкама №559 ад 10 чэрвеня 2009.

«УсходБуд» быў сумесным таварыствам з абмежаванай адказнасцю — значыцца, сярод ягоных уласнікаў былі і беларускія, і замежныя рэзідэнты. Гэта давала права на атрыманне зямлі ў пастаяннае карыстанне. Розніца ў тым, што цалкам замежная кампанія магла б толькі арандаваць участак.

### Хто валодае?

Інфармацыя пра першапачатковых заснавальнікаў «УсходБуда», на жаль, адсутнічае. Аднак дакладна вядома, што з цягам часу іх склад змяніўся. Як паведамілі «Нашай Ніве» ў Міністэрстве юстыцыі, у жніўні 2009 года ў іх лік увайшла кампанія з абмежаванай адказнасцю «Дэмілюкс ЛТД». Назва «Дэмілюкс» сустракаецца ў базах дадзеных кампаній Уругвая і Ганконга, аднак такой арганізацыі сярод беларускіх юрыдычных асобаў няма. Фактычна гэта замежны афшорны фонд — кампанія, створаная для таго, каб схаваць імя сапраўдных уласнікаў.

У лютым 2014 года ў спісе ўласнікаў «УсходБуда» з'явіўся новы афшор. Кампанія з абмежаванай адказнасцю «Вінсаймер Холдынгс Лімітэд» унесла ў статутны фонд усяго... $2,2 і атрымала 0,01% долі. Арганізацыі з такой назвай сярод беларускіх юрыдычных асобаў таксама няма. Навошта было ствараць новую кампанію і атрымліваць ад яе такую дробязь? Мы пакуль не знайшлі адказу на гэтае пытанне.

Тады ж «УсходБуд» памяняў назву. Цяпер гэта таварыства з абмежаванай адказнасцю «Усход Проперціз Менеджмент» (словы можна перакласці як «Кіраўніцтва нерухомасцю Усход»). Змянілася і форма ўласнасці — таварыства перастала быць сумесным.

Такім чынам, па стане на сёння зямлю выкарыстоўвае таварыства з абмежаванавай адказнасцю, заснавальнікамі якога з'яўляецца невядомыя замежныя кампаніі.

### Што пабудавалі?

Трапіць на тэрыторыю «Усхода» немагчыма. Высачэзны плот з калючым дротам стаіць вакол па ўсім перыметры 17 гектараў зямлі, на ім замацаваныя камеры відэаназірання. Хапае і спосабаў псіхалагічнага ціску. Напрыклад, на плоце развешаныя таблічкі «Забароненая зона. Праход закрыты». Іхняя бессэнсоўнасць відавочная: праз чатырохметровую агароджу без дзвярэй прайсці і так немагчыма, а блукаць па лесе побач з плотам не можа забараніць ніякая вывеска.

На слупах вісіць яшчэ адно незаконнае «абмежаванне»: у лесе каля прыватнай рэзідэнцыі нібыта забаронена фота- і відэаздымка.

Праехаць вакол «Усхода» на аўтамабілі можна, толькі калі праігнараваць некалькі знакаў «Праезд забаронены» і «Уезд забаронены». Заезд у жыллёвы комплекс закрыты шлагбаумам.

Убачыць, што знаходзіцца ўнутры, можна толькі праз спадарожнікавыя здымкі (глядзі карту). У рэспубліканскі рэестр нерухомасці занесенае прызначэнне кожнага з будынкаў — ад жылых катэджаў да сховішча для гароднін. Апроч таго, на фота бачныя некалькі спартыўных палёў (злева направа — тэнісные, баскетбольнае і валейбольнае), а таксама прычал.

### Хто жыве?

Дакументальнага адказу на гэтае пытанне няма. Ёсць толькі размовы работнікаў суседніх санаторыяў, якія нават баяцца падысці да сваіх новых нечаканых суседзяў. І запісы на інтэрнэт-форумах ад людзей, што маюць кантакты з тымі, хто працуе там у абслузе.

**Ягор Марціновіч**




«Усход» стаіць упрытык з рэзідэнцыяй кіраўніка дзяржавы «Заслаўе». Кадастравая цана зямлі — $300 тысяч

Спадарожнікавы здымак GoogleMaps.

1) Трохпавярховы драўляны дом з падвалам, трыма тэрасамі і чатырма навесамі. Плошча — 1144 м²
2) Трохпавярховы блочны дом з падвалам, трыма тэрасамі і двума навесамі. Плошча — 967 м²
3) Двухпавярховы блочны дом з падвалам, тэрасай і двума навесамі. Плошча — 885 м²
4) Двухпавярховы блочны дом з падвалам і дзвюма тэрасамі. Плошча — 458 м²
5) Двухпавярховы блочны дом з падвалам і чатырма навесамі. Плошча — 642 м²
6) Аднапавярховы драўляны дом з прыбудовай, тэрасай і навесам. Плошча — 145 м²
7) Двухпавярховы гаспадарчы дом з падвалам і двума навесамі. Плошча — 528 м².
8) Лазня да дома №1 з падвалам, дзвюма тэрасамі і двума навесамі. Плошча — 303 м².
9) Лазня да дома №2 з дзвюма тэрасамі. Плошча — 71 м².
10) Лазня да дома №3 з тэрасай і навесам. Плошча — 49 м².
11) Блочны лазневы комплекс з падвалам і двума навесамі. Плошча — 1875 м².
12) Двухпавярховы блочны фізкультурнааздараўленчы комплекс. Плошча — 1717 м².
13) Гараж. Плошча — 157 м².
14) Двухпавярховы блочны дом аховы. Плошча — 134 м².
15) Блочны будынак барбекю на 15 чалавек. Плошча — 85 м².
16) Сховішча для гароднін.
17) Помпавая станцыя над артэзіянскімі свідравінамі.

Апроч таго, на тэрыторыі «Усхода» пабудаваныя гараж для спецтэхнікі, будынак барбекю на 6 чалавек, кацельня, супрацьпажарная насосная станцыя, станцыя ачысткі сцёкавых вод.

# Шатландыя як прыклад

На гэтых выхадных Шатландыя праводзіць рэферэндум аб незалежнасці. Ніхто не прадказжа выніку. Лёс краіны могуць вырашыць долі працэнта, думкі раздзяліліся 50 на 50.

Калі Шатландыя вырашыць аддзяліцца, катастрофы не будзе. Лондан даў ёй волю самойвырашаць свой лёс. Але ўсе англійскія палітыкі ў адзін голас агітуюць за адзінства. «Не рабіце кроку ў невядомасць», — заклікаў прэм'ер Кэмеран.

Шатландыя — пяцімільённы рэгіён. У яго багатая гісторыя, асобныя традыцыі — не толькі спаднiцы-кілты. У свой час шатландцы прапілі ў бітвах за сваю незалежнасць шмат крыві, але не выстаялі супраць багатай і шматлюднай Англіі.

Як нацыю, шатландцаў падарвала страта роднай, кельцкай мовы. Застаўся толькі акцэнт. З ім гавораць, напрыклад, героі рамана і фільма «Наігле». Дарэчы, яго аўтар Ірвін Уэлш горача падтрымаў незалежнасць Шатландыі. Як і акцёры Шон Конэры, Джэральд Батлер.

Калі шатландцы выберуць самастойнасць, гэты прыклад «мірнага разводу» могуць паўтарыць Каталонія, Краіна Баскаў, Корсіка і многія іншыя рэгіёны са сваімі адметнасцямі. Асабліва калі Еўрасаюз здолее знайсці механізм, як злучаць меншыя дзяржавы без аслаблення супольнага эканамічнага і абароннага патэнцыялу.

Іншы варыянт — як Квебек, які ўжо некалькі разоў галасаваў супраць незалежнасці ад Канады.

Але што важна — свой выбар і шатландцы, і Квебек, і каталанцы робяць не пад дуламі аўтаматаў зялёных чалавечкаў. І самалётаў нічых не збіваюць.



Сяргей Гудзілін

**Фотафакт**

**13 верасня ва ўсёй краіне ўрачыста прымалі ў піянеры. У Мінску цырымонія праходзіла на плошчы Дзяржаўнага Сцяга. У адрозненне ад савецкага часу, у піянеры ідуць не ўсе, хоць планы прыёму дырэктарам школ даводзяцца.**



## Дзе ты, Дуня?

Ля суда Цэнтральнага раёна Мінска былі затрыманыя журналісты Аляксандр Баразенка, Наталля Валакіда і Сяргей Сацюк-Грабоўскі. У судзе тым часам суд над грамадскім актывістам Юрыем Рубцовым. Яго вінавацяць у знявазе суддзі Кірылы Палулеха.

Затрыманні, як іператрус у журналіста Алеся Буракова ў Магілёве, здарыліся на наступны дзень пасля візіту ў Мінск прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуні Міятавіч. Яе прымалі ў Міністэрстве замежных справаў і абяцалі прыслухацца да парадаў еўрапейскіх спецыялістаў па пытаннях СМІ і свабоды слова.

**Мікола Бугай**

## Беларуску знялі з цягніка з Крыма і забаранілі ўезд ва Украіну на 3 гады

Медработнік Алена з Мінска вярталася з Крыма дадому на беларускім цягніку. На мяжы з Украінай яе ссадзілі памежнікі, у пашпарт паставілі штамп аб забароне на ўезд у гэтую краіну тэрмінам на 3 гады.

Яна расказала парталу Tut.by, што ў такой сітуацыі можа апынуцца кожны. «У беларускім памежным камітэце запэўнівалі, што ў нас не будзе праблем, калі мы ўедзем у Крым праз Расію, а выедзем — праз Украіну».

Аднак Украіна лічыць Крым акупаванай тэрыторыяй. І дазваляе ўязджаць у яго толькі праз мацерыковую частку краіны. А паколькі ў Керчы і Сімферопалі ўкраінскіх памежнікаў няма, для Кіева ўезд там незаконны.

**Сцісла**

### Даляр перавысіў 10 500 рублёў

Афіцыйны курс амерыканскай валюты ўжо дасягае 10 510 рублёў. Ад пачатку года курс вырас больш чым на 10,5% і працягвае расці.

### Беларусь пазычыла ў Расіі яшчэ $1,5 млрд

Беларускі ўрад бярэ гэтыя грошы, каб пагасіць ранейшы брыдж-крэдыт, які краіна ўзяла ў расійскага ж «Банка ВТБ».

### Кабаева стала топ-менеджарам

Былая расійская гімнастка, фаварытка Уладзіміра Пуціна Аліна Кабаева стала старшынёй рады дырэктараў холдынгу «Нацыянальная Медыя Група». Пад яе кіраваннем будуць 5-ы канал і Рэн-ТВ. НМГ з'яўляецца саўладальнікам тэлеканала Life News, газет «Вести», «Жизнь» і «Твой день», радыёстанцыі «Русская служба новостей», а таксама валодае 25% акцый Першага канала ды іншых СМІ. Для такой працы Кабаева склала паўнамоцтвы ў Дзяржаўнай думе.

### Масавае затрыманне ў парку Горкага

У пятніцу ўвечары ў падземным пераходзе каля мінскага парку Горкага мусіў адбыцца кінапрагляд. Моладзь не піла, не курыла, проста вырашыла так незвычайна пабавіць час. Не далі — прыехала міліцыя і ўсіх 25 юнакоў затрымала, у тым ліку двух журналістаў «Белсата». Іх даставілі ў Партызанскі РУУС, дзе пратрымалі 3 гадзіны. Усіх перапісалі і адпусцілі.

### У Ізраіль — без візаў

Беларусы змогуць свабодна ўязджаць у Ізраіль, а ізраільцяне — у Беларусь і знаходзіцца ў іншай краіне 180 дзён на год. Пагадненне між краінамі ўступіць у сілу ў канцы снежня 2014 года.

### Лукашэнка папрасіў грошы на дарогі

«Вельмі вас прашу, каб у плане пашырэння фінансавання, якое прадугледжваецца на гэты і будучы гады, былі вылучаныя Сусветным банкам дадатковыя рэсурсы для будаўніцтва аўтамабільных дарог у Беларусі», — заявіў ён падчас сустрэчы з віцэ-прэзідэнтам Сусветнага банка ў рэгіёне Еўропы і Цэнтральнай Азіі Лорай Так. Кіраўнік дзяржавы мяркуе, што варта разбудаваць паўднёвую транзітную магістраль Брэст—Кобрын—Гомель.

**ЯМ**

### Самае чытанае на nn.by за 10—16 верасня

1. Масавае затрыманне ў мінскім парку Горкага
2. Тэлевядучая АНТ Каліна Вардомская пабіла жанчыну на паркоўцы, бо тая «быкавала»
3. Украінец пад Данецкам захапіў варожы танк: Расіяне былі ўпэўненыя, што мы не адважымся супраціўляцца
4. Выдавец «БДГ» Пятро Марцаў згарэў за тры тыдні ад вострага лейкозу
5. Расследаванне: «Боінг» быў збіты «Букам» 53-й зенітна-ракетнай брыгады СПА Расіі
6. Патрыярх Кірыл назваў межы «рускага свету»
7. Гіркін-Стралкоў адмовіўся вяртацца ў Данбас
8. Як малады эмігрант падманваў беларусаў замежжа
9. Вінаваты ў рэзананснай гродзенскай аварыі ўцёк з-пад варты, пераплыўшы Нёман
10. Пяць фактаў пра Андрэя Уцюрына

# Пяць фактаў пра Андрэя Уцюрына

Ён 7 гадоў кіраваў службай аховы Лукашэнкі, а цяпер **пераведзены** ў Раду бяспекі.



У спісе самых уплывовых беларусаў, які «Наша Ніва» склала летась, начальнік службы аховы прэзідэнта Андрэй Уцюрын заняў 8-е месца — услед за Макеем і Чыжом, але вышэй за ўсіх віцэ-прэм'ераў і губернатараў.

Некаторыя з апытаных намі экспертаў не разглядалі Уцюрына ўсур'ёз, але тыя, хто меў дачыненне да найвышэйшых эшалонаў улады, былі аднадушныя: уплыў былога целаахоўніка насамрэч вялікі.

Сваім указам ад 11 верасня 2014 Аляксандр Лукашэнка адсунуў Уцюрына далей ад свайго цела, але падняў яго па фармальнай кар'ернай лесвіцы. Цяпер Уцюрын — намеснік Дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі.

### Спадчынны сілавік

У афіцыйнай біяграфіі пазначана, што Андрэй Уцюрын нарадзіўся ў Пензе ў 1971 годзе і скончыў Саратаўскае вышэйшае вайсковае вучылішча МУС Расіі.

Яго бацька, Аляксандр Уцюрын, у 1977—1986 узначальваў у Беларусі вайсковую частку 3214, а перад тым ён якраз служыў у Пензе.

### На адным месцы

У Службе бяспекі Лукашэнкі Уцюрын з'явіўся яшчэ ў 1995 годзе і няспынна працягваў працаваць дагэтуль.

Такая стабільнасць працы сярод беларускага кіраўніцтва ўласціва хіба што работнікам Міністэрства фінансаў.

Да пасады кіраўніка целаахоўнік даслужыўся ў 2007 годзе.

Ён кіраваў немалым калектывам. Яшчэ дзесяць гадоў таму колькасць работнікаў службы бяспекі складала каля 700 чалавек.



**Уцюрын (справа) мае нямала ўзнагародаў.**

У гэты час быў прыняты закон «Аб дзяржаўнай ахове», які фактычна ўраўнаваўжваў службу аховы прэзідэнта з КДБ.

Ведамства Уцюрына атрымала законнае права праводзіць аператыўна-вышуковую дзейнасць і ствараць падраздзяленні спецыяльнага прызначэння.

Пасля жорсткага разгону Плошчы-2010 істотна пашырыўся пералік невыязных беларускіх чыноўнікаў. Пад №9, следам за Віктарам Лукашэнкам, Уладзімірам Макеем і Леанідам Мальцавым, быў уключаны «начальнік службы бяспекі прэзідэнта Андрэй Цюрын». Нават у такі важны спіс трапіла абдрукоўка — размова, вядома ж, ішла пра Уцюрына.

### Перспектыўная пасада

Начальнік службы бяспекі Лукашэнкі — перспектыўная пасада для далейшага росту. Хто быў папярэднікамі Уцюрына і кім яны сталі пасля?

Юрый Бародзіч ахоўваў кіраўніка краіны ў 1995—1998 гадах. Яшчэ падчас службы ён узначальваў федэрацыю хакея Беларусі. Пасля адстаўкі ён быў афіцыйным прадстаўніком КДБ Беларусі пры ФСБ Расіі, а на радзіме ўзначаліў спартыўнае аб'яднанне «Дынама». Цяпер Бародзіча называюць адной з асноўных кандыдатур на пасаду міністра спорту і турызму.

Бяспекай Лукашэнкі кіравалі і Уладзімір Навумаў (1999—2000), які стаў міністрам унутраных спраў, і Леанід Ерын (2000). Апошняга праз месяц службы перавялі на пасаду старшыні КДБ. Генадзь Нявыглас (2000—2001) стаў дарадцам Лукашэнкі па нацыянальнай бяспецы, а пасля — кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта. Яўген Дзвярніцкі (2001—2003) — намеснікам міністра ўнутраных спраў.

Нарэшце, Юрый Жадобін пасля службы галоўным целаахоўнікам (2003—2007) пабыў старшынёй КДБ, а цяпер з'яўляецца міністрам абароны.

Уцюрын пратрымаўся на пасадзе даўжэй за ўсіх папярэднікаў. Знаёмыя адзначаюць яго фанатычную адданасць сваёй справе і вернасць афіцэрскаму кодэксу гонару.

У 2006 Уцюрын наведваў камеры, дзе сядзелі арыштаваныя за Плошчу, знаёміўся, так бы мовіць, з палоннымі.

### З раёна Нацыянальнай бібліятэкі — у новыя «Дразды»

У канцы 2011 года Андрэй Уцюрын атрымаў зямельны надзел у Вяснінцы, так званых «Драздах-2».

Ягонымі суседзямі сталі кіраўнік Белкаапсаюза Валерый Іваноў і мастак Уладзімір Зінкевіч. А праз дарогу жывуць прапагандысты Генадзь Давыдзька і Юрый Казіятка.

Працы на ўчастку Уцюрына ідуць няхутка, канца будоўлі не відаць.

А вось свае старыя апартаменты целаахоўнік Лукашэнкі сёлета перапісаў на сына. 21-гадовы Антон Уцюрын цяпер паўнавартасны гаспадар чатырохпакаёўкі агульнай плошчай больш за 165 м$^2$.

Вокны дома па вуліцы Язмінавай, дзе ён жыве, выходзяць на Сляпянскую водную сістэму і Нацыянальную бібліятэку. Дарэчы, гэты квартал элітных дамоў забудоўвала кампанія «Тапас», поспехі якой звязваюць з асобай нападаючага прэзідэнцкай хакейнай каманды Паўла Белага.

### Сын — будучы дыпламат

Сам Уцюрын — сілавік як мінімум у другім пакаленні, а вось кар'еру сыну абраў іншую. Як і дзеці многіх іншых беларускіх чыноўнікаў, Антон паступіў на факультэт міжнародных адносінаў БДУ.

Старонкі ў сацыяльных сетках ён вядзе ў закрытым рэжыме, толькі пакінуў эпіграф да свайго твітара: «Юра, мы все прое*али».

**Ягор Марціновіч**

# «Государство Белоруссия абсурдно и невозможно»

**Антыбеларуская літаратура** адкрыта прадаецца ў кнігарнях і супермаркетах.

Карэспандэнт БелаПАН знайшоў у гандлёвым цэнтры «Карона», кнігу, якая яго збянтэжыла.

Выданне Аляксея Кафанава «Расія: шлях да перамогі» суправаджаецца прэтэнцыёзным надпісам на вокладцы: «Ад аўтара нацыянальнага бестселера «Рускі цар Іосіф Сталін». І што чытаем: «Расія, Русь павінна быць у першую чаргу краінай русаў — без раздзялення на галіны. «Дзяржава Украіна», «дзяржава Беларусь» абсурдныя, немагчымыя». Цікава, што думае пра гэта Рэспубліканская экспертная камісіяі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці ў ёй прыкмет праяўлення экстрэмізму?

# «Нацыяналізм» становіцца «нацызмам»

Неймаверныя тэхналогіі расійскіх перакладчыкаў.

Для вядзення інфармацыйнай вайны расійскія ўлады падключылі велізарныя рэсурсы. Толькі за гэты год дзясяткі аўтараў выдалі свае псеўдагістарычныя і псеўдапаліталагічныя працы, што апісваюць жахі «бандэраўшчыны» і сцвярджаюць, што Украіна заблукала і без Расіі ёй — нікуды.

У дадатак да новых кніг перавыдаюцца і старыя, тэма якіх перасякаецца з гісторыяй Украіны ці Крыма.

Напрыклад, выдавецтва «Эксмо» распачало серыю «Крым», у якой перавыдала «Севастопальскія расказы» Талстога, «Падзеі ў Севастопалі» Купрына, «Бег» Булгакава. Усе кнігі выходзяць у новай патрыятычнай вокладцы з Андрэеўскім сцягам і Святым Юр'ем на гербе.




Аднак некаторыя кнігі напаткаў яшчэ больш сумны лёс. Надзвычай цікавая і кніга Джона Армстранга «Истоки самостийного нацизма. К чему пришла Украина в XXI веке» выдавецтва «Цэнтрпаліграф». На вокладцы змешчаныя два фотаздымкі: украінскага трызубца на фоне гітлераўскіх свастык уверсе і здымак двух жаўнераў, якія кудысьці валакуць бяззбройнага чалавека ўнізе.




Загаловак і афармленне вокладкі нясуць вельмі моцны антыўкраінскі пасыл. Аднак не ўсё так проста. Бо пад вокладкай знаходзіцца кніга амерыканскага ўкраіназнаўцы і заслужанага прафесара ўніверсітэта Вісконсін-Мэдысан Джона Аляксандра Армстранга — вядомага даследчыка нацыянальных рухаў ва Усходняй Еўропе.

Арыгінальная назва кнігі — Ukrainian Nationalism 1939–1945 (даслоўна «Украінскі нацыяналізм у 1939—1945 гг.»). Кніга была ўпершыню выдадзеная ў 1955 годзе і перажыла тры выданні. Кнігу Джона Армстранга варта прачытаць зацікаўленым у дадзенай тэматыцы, яе хваляць за багаты палявы матэрыял: Армстранг свабодна валодаў украінскаю і расійскай мовамі і атрымліваў інфармацыю ад непасрэдных удзельнікаў і відавочцаў падзей.

Цікава, што «Цэнтрпаліграф» ужо выдаваў кнігу Армстранга пад назвай «Украинский национализм. Факты и исследования». Але «нацыяналізм» цягам шасці гадоў ператварыўся ў «самостийный нацизм».

Застаецца толькі здагадвацца, што дадалі ці прыбралі з самога тэксту кнігі выдаўцы, якія так мэтанакіравана сказілі назву і вокладку даследавання. На жаль, сам Армстранг памёр у 2010 годзе і ўжо не даведаецца, пад якім загалоўкам яго праца сустрэла чарговае перавыданне.

**Кірыла Хілько**

*Мы патэлефанавалі ў выдавецтва і запыталіся, чаму яны так змянілі назву? І ці ўзгоднена гэта з нашчадкамі гісторыка? Пасля доўгага прамаруджвання нам адказалі, што супрацоўнік, адказны за выхад дадзенай кнігі, больш у выдавецтве не працуе, а больш ніхто інфармацыю даць не можа.*

# 22-гадовы гандбаліст загінуў у бойцы за права першым паехаць у таксі

Я помню гэтую дату — 25 мая 2013 года. На вачах гледачоў «Мінск-Арэны» сталічны СКА перамагае люксембургскі «Эш» у другім фінальным матчы Кубка выкліку ЕГФ. Упершыню за 25 год мінскія армейцы падымаюць над сваімі галовамі еўрапейскі трафей. Сярод гандбалістаў быў і Рома Лукашук — правы крайні...

14 верасня той самы Рома памёр у рэанімацыі, не прыходзячы ў прытомнасць.

Што магло здарыцца з хлопцам, кар'ера якога толькі набірала абароты? Як высветлілася, ён быў дастаўлены ў шпіталь яшчэ 7 верасня з траўмай хрыбта, якую атрымаў на выхадзе з начнога клуба.

Па інфармацыі Следчага камітэта, спартовец выходзіў з начнога клуба і паспрачаўся з незнаёмым мужчынам, хто першы паедзе на таксі. Ад удару Лукашук упаў і атрымаў траўму. Ідзе следства. Ужо вядома, што другі ўдзельнік канфлікту — 36-гадовы жыхар Мінскай вобласці. Яму інкрымінуюць наўмыснае нанясенне цялеснага пашкоджання.

Рома быў прыкладам жыццярадаснага хлопца, заўжды на пазітыве. «Ён быў зусім неканфліктны. Нармальны, адэкватны хлопец, вясёлы заўжды. У яго ніколі не было праблем са спартыўным рэжымам, не залётны быў», — расказвае спартыўны дырэктар СКА Андрэй Крайноў, які раней сам выступаў за зборную Беларусі па гандболе.

Летась Раман быў упершыню выкліканы ў нацыянальную зборную. Для хлопца ў 22 гады — гэта вялікі поспех. Калі Рому спыталі, якой замежнай зборнай ён сімпатызуе на міжнароднай арэне, адказаў: «Я патрыёт, таму магу выдзеліць толькі нашую зборную».

На ўсіх фатаграфіях, якіх на старонцы Лукашука Укантакце больш за 700, Рома ўсміхаецца.

Яго бацька таксама займаўся гандболам, і да спорту прывучыў сына ён. Першы трэнер Ромы, Леанід Вашкевіч, кажа: «Рома больш у зале знаходзіўся, чым у школе. Ніколі да яго не было ніякіх пытанняў. Такі ветлівы, такі адкрыты».

У СКА адбыўся агульны збор, на якім абмяркоўвалася гэтая сітуацыя: «Мы глядзім, каб спартоўцы не парушалі рэжым. Але ў людзей ёсць выхадныя дні, святы ў жыцці. Усе жывыя людзі... Уся каманда цяпер у шоку».

**Зміцер Міцкевіч**




# Хобі, якое забівае

**Ад пачатку года ў аварыях з удзелам матацыклістаў загінула каля 40 чалавек.**

Аварыі з удзелам матацыклістаў адбываюцца ў Беларусі ледзь не штодня. Часам смяротныя выпадкі раздзяляюць некалькі гадзін.

10 верасня КамАЗ заязджаў на тэрыторыю будоўлі ў сталічным раёне Каменная Горка. У суседняй паласе нечакана з'явіўся матацыкліст. Як мяркуецца, першы паварочваў не з крайняй левай, а другі перавышаў хуткасць. Хто вінаваты, разбяруцца следчыя, але матацыкліста ўжо не вярнуць.

І ў той жа дзень на іншым канцы Мінска, на вуліцы Радыяльнай, кіроўца BMW заехаў у кішэню для павароту налева. Матацыкліст, які ехаў за ім, не паспеў зрэагаваць і паспрабаваў аб'ехаць машыну злева. У выніку хлопца выкінула на сустрэчную паласу, дзе ён аказаўся заціснуты пад «Рэно». А гэтую машыну, у сваю чаргу, павяло пад суседні МАЗ. Шанцаў выжыць у байкера не было.



Усяго ж ад пачатку года адбылося больш за 250 ДТЗ з удзелам матацыклістаў. Каля 40 чалавек загінула. У большасці выпадкаў прычынай ДТЗ было перавышэнне хуткасці матацыклістам.

Як правіла, у аварыі трапляюць маладыя ўладары спартовых байкаў. Замест дарагой і пафаснай цацкі, матацыкл ператвараецца ў небяспечную прыладу, прычым часта — у прыладу самазабойства.

«Часцей за ўсё на дарогах б'ецца моладзь, а не члены клубаў. Гэтыя гоншчыкі часта думаюць, што ўжо Бога за бараду ўзялі, калі на спартыўны байк селі. А гэта ж не так, — кажа Уладзімір «Дацэнт» Аляшкевіч, намеснік старшыні аддзялення матаклуба «Iron Brothers». — Спартыўны матацыкл — гэта спартыўны снарад. Ён перадусім прызначаны для язды па спецыяльнай трасе і ўдзелу ў спаборніцтвах. Гэта не зусім сродак перамяшчэння».

Да таго ж, аматары хуткай язды на двух колах нярэдка не ўлічваюць шэраг простых фактараў. Па-першае, матацыклісту на дарозе пагражае больш небяспекі, чым уладальніку аўто, проста таму, што ён менш устойлівы. Матацыкл на хуткасці можа «паслізнуцца» нават на дарожнай разметцы, бо фарба пагаршае счапленне з дарогай. Па-другое, кіраўнік байка не абаронены нічым, акрамя свайго касцюма.

«Гэтых гоншчыкаў я і сам не люблю — яны ж непрадказальныя. Любы кіроўца, які бачыць свабодныя сто метраў, не можа і ўявіць, што выскачыць матацыкл і пераадолее гэтыя сто метраў за дзве секунды. А там выпадкова яго кранеш — і ДТЗ. І кажуць: не прапусціў, вінаваты. А хто ж мог гэтае прадказаць? — здзіўляецца «Дацэнт». — Мае асабістае меркаванне: у 80% ДТЗ вінаваты матацыкліст. І аўтамабілісты бываюць вінаватыя, але, найчасцей, уладальнік байка рухаецца ў горадзе, перавышаючы хуткасць».

Паменшыць колькасць здарэнняў, кажа Уладзімір Аляшкевіч, можна. Напрыклад, у Японіі чалавек, які толькі атрымаў правы, не можа набыць адразу магутны байк. Спачатку ён павінен паездзіць на чымсьці менш сур'ёзным, каб навучыцца паводзіць сябе на дарозе.

«За «піжонства» на дарозе і кіраванне ў нецвярозым стане трэба пазбаўляць правоў пажыццёва, — перакананы «Дацэнт». — І яшчэ, хацелася б, каб у нас зрабілі трасу, нармальны спартовы трэк, дзе б дзяжурыла «хуткая». Чалавек мог бы там выпусціць пару. Заплаціў сабе за гадзіну ці дзве — і ляці. У Еўропе ёсць такія трасы, даволі хітрыя, з нечаканымі паваротамі. Гэта дысцыплінуе і вучыць думаць. Калі ёсць людзі, якім дазваляюць мець спортбайкі, дык павінна быць і ўся неабходная інфраструктура».

Да таго ж, матацыклістаў трэба вучыць ездзіць, падкрэслівае Аляшкевіч. У Беларусі матацыкліст у аўташколе толькі здае экзамены на пляцоўцы. У той жа Польшчы іх вучаць усур'ёз: за матацыклам едзе аўто з інструктарам, у матацыкліста — мабільная гарнітура і яркая камізэлька з флікерамі. І яму падказваюць, што рабіць і як. У нас, на жаль, сапраўднай школы навучання матацыклістаў няма.

У тым, каб колькасць здарэнняў з удзелам матацыклістаў зменшылася, перадусім зацікаўлены самі байкеры. Шалёны матацыкліст — гэта пагроза не толькі ўдзельнікам дарожнага руху, але і ўсёй байкерскай супольнасці.

**Улад Швядовіч**

**Аварыя з дзвюма ахвярамі**

Раніцай 15 верасня 31-гадовы мужчына з пасёлка Першамайскі Лідскага раёна вёз на матацыкле 23-гадовую сяброўку з вёскі Пяскі на практыку ў Іўе. Пры выкананні левага павароту 65-гадовы кіроўца рэйсавага аўтобуса не саступіў матацыклісту, бо не пабачыў яго за яркімі промнямі. Невядома, ці байкер перавышаў хуткасць. І кіроўца, і дзяўчына загінулі на месцы здарэння.

# Доктарку асудзілі за тое, што не хацела лячыць п'яных

**Незвычайны працэс у Хоцімскім раёне.**

З нядаўніх часоў у фельчарска-акушэрскім пункце мястэчка Ельня Хоцімскага раёна няма доктара. Надзею Сляпнёву, якая адрабіла тут больш за 20 гадоў, прызналі вінаватай па артыкуле «Неаказанне медыцынскай дапамогі хвораму без паважных прычын». На два гады ў яе забралі права займацца медыцынскай дзейнасцю.

...Сталаму чалавеку стала кепска ў лазні. Ён страціў прытомнасць і ўдарыўся галавой. Дзеці дазваніліся доктарцы, але тая адмовілася прыйсці: маўляў, толькі пачала тапіць у хаце кацёл.

Пакуль бацьку рабілі штучнае дыханне, адзін з сыноў паехаў да дома Сляпнёвай. Доктарка з ім не паехала, спаслалася на адсутнасць у яе сумкі першай медыцынскай дапамогі і на тое, што ключ ад амбулаторыі ў фельчара, якога таксама не было на працоўным месцы. Выклікалі «хуткую», але ўратаваць мужчыну дактары не паспелі.

На пахаванні аднаму з сыноў нябожчыка Глушчанкі стала дрэнна. Радня зноў патэлефанавала Сляпнёвай, але тая толькі параіла даць яму чаю. Гэта стала апошняй кропляй, і сям'я звярнулася ў праваахоўныя органы.

Следчыя высветлілі, што доктарка і раней сама вырашала, да каго бегчы, каму адмовіць. Адной з пацыентак Сляпнёва казала, што не будзе яе лячыць, бо тая п'е. Іншым разам адмовілася аглядаць мужчыну, які ўпаў нападпітку на вуліцы. Той памёр. А пасля не стала дапамагаць ягонаму сыну, сказала, што п'яніц не лечыць.

Зрэшты, Сляпнёва не спяшалася і да цвярозых. Аднойчы не прыйшла да астматыка, у якога здарыўся прыступ...

Надзея Сляпнёва прыехала ў Беларусь з Бранскай вобласці Расіі яшчэ ў сярэдзіне 1990-х. У яе дыплом Маскоўскага медінстытута — уладкавалася тэрапеўтам. Пасля ўзначаліла медыцынскую амбулаторыю ў вёсцы.

На судзе заявіла, што вінаватай сябе не лічыць: да пацыента прыйшла, але ўжо не заспела — сыны павезлі. Прызналася, што збіраецца з'язджаць з вёскі.

**Паводле sb.by**

# Беларуская трагедыя:

## 19-гадовы хлопец забіў сваю аднагодку-сяброўку, калі яна сказала яму пра цяжарнасць — выдумала яе

Трагічна скончылася вясковая «Санта-Барбара» ў Рэчыцкім раёне. 19-гадовая дзяўчына на працягу некалькіх месяцаў хлусіла свайму сябру, што цяжарная ад яго і нават нарадзіла дзіця. Ён жа вырашыў яе забіць праз гэта. Знарок ці выпадкова, жудаснае злачынства адбылося на Дзень усіх заканых, 14 лютага. У верасні пачаўся судовы разгляд крымінальнай справы.

Згодна з абвінавачваннем, 14 лютага каля 21.30 ля вёскі Перавалока Рэчыцкага раёна зямляк паэта Сыса, жыхар вёскі Гарошкаў 1994 года нараджэння, здзейсніў забойства 19-гадовай дзяўчыны, жыхаркі вёскі Салтанова.

Дапамагаў магчымаму забойцу (ступень яго віны дакажа суд) яго сябра, жыхар вёскі Броннае 1993 года нараджэння.

Аляксей, былы хлопец Вікі, забіў яе, некалькі разоў стукнуўшы палкай па галаве. Калі дзяўчына памерла, да яе цела злачынца прывязаў мяшок з камянямі і ўтапіў ў сажалцы.

Суд спрабуе да драбніц высветліць абставіны таго Дня ўсіх заканых, які стаў для 19-гадовай Вікі апошнім.

У судовай зале шмат людзей. Сваякі забітай і імаверных забойцаў сядаюць далей адны ад адных. Але і тыя, і другія часта не могуць стрымаць слёз. Хлопцы ж на лаве падсудных трымаюцца спакойна, упэўнена і нават бадзёра. Вячаслаў часам весяліцца, з гатоўнасцю адказвае на пытанні суддзі. Аляксей паказвае сваякам сціснуты і ўзняты кулак, стрымана ўсміхаецца.

Паказанні, якія давалі абвінавачаныя на следстве, месцамі адрозніваюцца ад тых, якія яны агучваюць у зале суда. Але гэта тычыцца не асноўных момантаў злачынства. Па версіі Аляксея, з Вікай ён раней вучыўся ў НВК (навучальны-вытворчы камбінат), але не сябраваў. Неяк у 2013 годзе яны выпадкова сустрэліся ў Рэчыцы на вуліцы, завязалася блізкае знаёмства, маладыя людзі пачалі сустракацца. Праз два месяцы пасля знаёмства дзяўчына «абрадавала» Аляксея весткай пра тое, што цяжарная. Ён жа не хацеў мець з Вікай сур'ёзных адносінаў і таму прапанаваў зрабіць аборт. Дзяўчына адмовілася.

Потым высветлілася, што пра цяжарнасць дзяўчына схлусіла. Такім чынам яна спрабавала ўтрымаць Аляксея, бо заўважыла, што ён змяніў свой статус «Укантакце» — займеў іншую сяброўку. Гэта і вымусіла Віку прыдумаць версію пра цяжарнасць. Дзяўчына пачала таксама пагражаць сябруку, што ў выпадку, калі ён яе кіне, яна пойдзе да бабак-шаптух і «навядзе на яго псую».

Па словах другога абвінавачванага, Вячаслава, яго сябар Аляксей баяўся пагроз пра псую, таму не кідаў дзяўчыну, прыязджаў да яе перыядычна. Аляксей таксама ў сваіх паказаннях на папярэднім следстве прызнаваўся, што баяўся пагроз Вікі, што тая пры дапамозе вядзьмарак «адбярэ ў мяне здароўе». Тады, восенню 2013 года, у хлапца нарадзілася такая думка, якую ён агучыў у паказаннях: «Калі ў Вікі будзе выкідыш, гэта пазбавіць мяне праблем, яна больш не будзе палохаць мяне шаптухамі і нагнятаць абстаноўку».

Ён папрасіў свайго сябрука Вячаслава, каб той падпільнаваў дзяўчыну і пабіў яе нагамі ў жывот. Хлопец спадзяваўся, што пасля гэтага ў дзяўчыны здарыцца выкідыш.

Суддзя ўдакладняе: «Адкуль вы такое ўзялі, што, калі пабіць нагамі ў жывот, — будзе выкідыш? Вы чыталі адмысловую літаратуру?»

Аляксей адказвае: «Бачыў такое па тэлевізары, у серыяле. Нехта штурхнуў дзяўчыну, яна стукнулася — і ў яе здарыўся выкідыш».

Дарэчы, вінаватымі «ва ўсім» тэлевізар, фільмы і серыялы і сваякі забітай дзяўчыны, калі размаўлялі пасля судовага паседжання. «Гэта ж дзеці, ім жа па 20 гадоў, праблемы не ўмеюць вырашаць, наглядзеліся тых серыялаў ды вось так атрымалася», — разважалі вяскоўцы.



У той восеньскі вечар Вячаслаў пільнаваў дзяўчыну ў кустах ля яе дома. Аляксей жа, дамовіўшыся з ім, падвёз Віку дахаты і абяцаў патэлефанаваць, калі ахвяра будзе на месцы.

Віка выйшла з аўтамабіля Аляксея, той патэлефанаваў Вячаславу, хлопец нацягнуў на галаву пакунак (каб яна яго не пазнала) і кінуўся на ахвяру са спіны. Ад моцнага ўдару дзяўчына звалілася на зямлю і закрычала. Спрацавала сігналізацыя на прыпаркаваным побач аўтамабілі, злачынца спалохаўся і збег. Пазней ён даў справаздачу сябру, што ўсё-такі пабіў, як той і прасіў, Віку нагамі па жываце.

«Чаму вы згадзіліся на просьбу сябра пабіць Віку? Вы разумелі, якія могуць быць наступствы для дзяўчыны?» — суддзя. «Я не ведаю. Цяжка сказаць», — мямліць Вячаслаў.

Тым часам Віка паскардзілася на тэлефоне Аляксею, што нехта напаў на яе каля пад'езда. Яна працягвала настойваць, што цяжарная. Праз яшчэ нейкі час дзяўчына паведаміла, што яна нарадзіла раней тэрміну дзіця, і хлопчык знаходзіцца «пад каўпаком» у шпіталі ў Гомелі.

Аляксей сцвярджаў на судзе, што неаднаразова прасіў Віку паказаць «сына», тая ж аднеквалася, тлумачыла, што немаўля то ў шпіталі, то ў бабулі. Між тым прасіла, па словах хлопца, у яго грошы на «памперсы». Дзяўчына казала, што сына назвала Маратам.

У лютым, відавочна, Аляксей вырашыў забіць Віку. На судзе ён даводзіць, што не планаваў забойства і гэта выйшла выпадкова, у спрэчцы. «Мы ехалі на дыскатэку ў вёску Перавалока. Па дарозе пачалі сварыцца, выйшлі з аўтамабіля, кіраваў якім Вячаслаў, сварыліся, яна мяне абражала, штурхала кулаком у грудзі, лаялася матам, я не вытрымаў, схапіў нейкую палку і стукнуў яе некалькі разоў па галаве», — распавядаў малады чалавек.

Доказы гавораць пра іншае. У багажніку аўтамабіля быў ужо падрыхтаваны мяшок з цаглінамі, дрот, гумавыя боты. Мяшок з цаглінамі пры дапамозе дроту забойца прывязаў да цела ахвяры і скінуў яго ў тэхнічны вадаём. Боты ж былі патрэбныя, каб дабрацца па возеры да палонкі.

Вячаслаў даказваў на судзе, што нічога не ведаў. Пра тое, адкуль у багажніку з'явіліся дрот і мяшок з камянямі, гаворыць, што паклаў іх Аляксей перад паездкай, патлумачыўшы, што хоча «запалохаць Віку». Якім менавіта спосабам — не ўдакладняў.

Па словах Вячаслава, ён не дапамагаў забіваць дзяўчыну, бачыў, як Аляксей яе стукнуў палкай. Потым дапамог дацягнуць цела да штучнага возера.

«Чаму вы не дапамаглі Віцы, не абаранілі яе, калі бачылі, як Аляксей яе б'е палкай па галаве?» — пытаецца суддзя.

«Я быў у шокавым стане. Я баяўся Аляксея», — апраўдваецца хаўруснік.

Пасля забойства хлопцы едуць у Рэчыцу, ідуць піць у бар, потым набываюць «віно, шакаладку і прэзерватывы» і бавяць вечар і частку ночы ў кампаніі дзяўчат.

На пасяджэнне не з'явіліся сведкі, таму суд вынес рашэнне даставіць іх прымусова.

Нагадаем, гэта не адзінае жорсткае забойства ў Рэчыцкім раёне. Так, 29 жніўня 2013 года была жорстка забітая і зняважаная 19-гадовая жыхарка Рэчыцы Алеся. Яе забойца арыштаваны, неўзабаве ў Гомельскім абласным судзе пачнуцца слуханні справы. Забойца і яго ахвяра былі знаёмыя, яны былі аднагодкі. Ён праводзіў дзяўчыну дахаты, а потым жорстка забіў яе.

Летам 2013 года каля вёскі Воўчая Гара Рэчыцкага раёна была забітая 23-гадовая Ліля, выпускніца Мазырскага педуніверсітэта. Выявілася, што забраў у яе жыццё былы сябар і аднакурснік. Дзяўчына адмовілася працягваць з ім стасункі. Помста яго была страшнай. На судзе малады чалавек атрымаў за забойства 15 гадоў.

Пасля судовага пасяджэння да маці забітай дзяўчыны падыходзіць маці Аляксея. Дзве жанчыны пра нешта ціха размаўляюць каля акна, абедзве горка плачуць. Чуваць, што маці хлопца просіць прабачэння ад яго імя. Сам ён пакуль гэтага не зрабіў.

**Юлія Шымкевіч, Рэчыца**

### Сцісла

**Цела школьніка знайшлі ў будынку «Сведак Іеговы»**

У рэчыцкай супольцы сведак Іеговы знайшлі цела падлетка. Паводле папярэдняй інфармацыі, 16-гадовы Саша скончыў жыццё самагубствам. Хлопчык пайшоў наводзіць парадак у будынку суполкі, які праз дарогу ад яго дома. Праз пару гадзін айчым не змог трапіць у замкнёнае знутры памяшканне. Калі дзверы адчынілі, дзіцяці ўжо не было ў жывых.

**Экскаватар забіў работніка райвыканкама**

9 верасня ў Мсціславе загінуў 32-гадовы работнік райвыканкама. Ён кантраляваў працу будаўнікоў. Экскаватаршчык праводзіў земляныя працы і не заўважыў, што пад каўшом апынуўся чыноўнік. Распачатая крымінальная справа па артыкуле «Прычыненне смерці па неасцярожнасці».

**Наехаў на дрот і загінуў**

Здарэнне адбылося 14 верасня паблізу вёскі Клюі Мінскага раёна. 23-гадовы кіроўца МАЗа рухаўся па кукурузным полі і збіў жалезабетонную апору лініі электраперадачы 10 кВ. У выніку наезду на дрот ЛЭП загарэліся дзве шыны аўтамабіля з левага боку. А сам кіроўца загінуў ад паражэння электрычным токам.

**Засыпала грунтам на будоўлі**

Пры ўкладцы каналізацыі ў траншэі на глыбіні тры метры абваліўся грунт. Пад завалам апынуўся рабочы. Ратавальнікі дасталі яго на паверхню, аднак медыкі канстатавалі смерць. Здарэнне адбылося 12 верасня на вуліцы Палескай у Мінску.

**На тэрыторыі МТЗ перакуліўся трактар**

ДТЗ адбылося 9 верасня на тэрыторыі Мінскага трактарнага завода. Трактар перакуліўся, з яго кабіны дасталі кіроўцу, які быў у непрытомным стане. Крыху пазней ён памёр у машыне «хуткай». Высвятляюцца прычыны здарэння. Пры першым аглядзе следчыя не выявілі прычын, якія маглі б спрыяць аварыі.

**Скраў 20 бутэлек гарэлкі і выпіў**

Жыхар Баранавіч звярнуўся ў міліцыю з заявай аб тым, што ў яго гаражы зламысьнік перапілаваў дужку навяснога замка і выкраў ровар, а таксама 20 бутэлек гарэлкі. Агульная сума шкоды склала 6 мільёнаў рублёў. Затрымалі 38-гадовага беспрацоўнага, у якога канфіскавалі скрадзены ровар. Да моманту затрымання алкаголь ён паспеў «знішчыць». Злачынцу пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.

**Кінула дзяцей і пайшла ў казіно**

Інспектары па справах непаўналетніх Цэнтральнага РУУС сталіцы выявілі ў адным з двароў пакінутых без нагляду дзяцей — шасцігадовую дзяўчынку і яе сястра, якой нядаўна споўніўся адзін месяц. Маці, 28-гадовая жыхарка Барысава, у гэты момант знаходзілася ў адным з казіно. Дзеці правялі адны больш за чатыры гадзіны, у старэйшай дыягнаставалі запаленне міндалін.

**УШ; БелТА, Tut.by, «Гомельская праўда»**

# Каліна Вардомская пабіла жанчыну на паркоўцы

**Вядучай АНТ** пагражае да 2 гадоў пазбаўлення волі.

Каліна Вардомская лічылася тварам тэлеканала АНТ. Яна была дыктаркай у навінах і нават выйгравала «Тэлевяршыню» як найлепшая вядучая лукашэнкаўскіх каналаў. Некалькі гадоў таму Каліна сышла ў дэкрэтны адпачынак і знікла з тэлеэкрана.

На мінулым тыдні Вардомская зноў прымусіла гаварыць пра сябе. У цэнтры ўвагі яна апынулася пасля жосткай бойкі — тэлевядучая на BMW і жанчына на «Поршэ Каен», Вольга, не саступілі дарогу адна адной. Інцыдэнт адбыўся ў двары на праспекце Пушкіна ў Мінску.

Праезд быў застаўлены машынамі, і кіроўцы ніяк не маглі размінуцца. Хто мусіў ад'ехаць паводле правілаў?

Вардомская была павінна «саступіць дарогу», бо менавіта на яе палосе была перашкода, прыпаркаваныя аўтамабілі. Але «саступіць дарогу» паводле ПДР — гэта патрабаванне не пачынаць рух, калі гэта можа перашкодзіць кіроўцу ці пешаходу, які мае перавагу.

Зрэшты, правярацЬ веданне правілаў кіроўцы не сталі. Некалькі хвілін яны сядзелі ў аўтамабілях і жэстамі заклікалі адна адну вызваліць дарогу.

А пасля ў Каліны Вардомскай здалі нервы... Яна выйшла са свайго BMW і нечакана плюнула на «Поршэ». Адныя відавочцы казалі, што на капот, іншыя ўзгадвалі пра лабавое шкло.

Пасля такога другая кіроўца таксама выйшла з машыны, і тут тэлевядучая накінулася на яе. «Пачала люта біць рукамі і нагамі, раз-пораз выкрыкваючы абразы, сарвала з яе завушніцы, кінула іх на зямлю. Праз некалькі хвілін яна села ў машыну і хутка з'ехала ў невядомым кірунку. Пацярпелая ж жанчына на гэты момант стаяла на каленях. Увесь твар быў у сіняках, валасы моцна растрапаныя, на лбе некалькі вялікіх шышак, а з мочак вушэй ішла кроў», — цытуе Onliner.by відавочцу.

Усё гэта бачылі дзеці абедзвюх удзельніц канфлікту! Дарэчы, і Каліна, і Вольга — шматдзетныя мамы.

«Яна забыкавала. Чорт мяне панёс выйсці са сваёй машыны! Так, я не вытрымала — і наваляла ёй, бо на кожную сілу знойдзецца іншая сіла», — тлумачыла Каліна Вардомская свае паводзіны.

Праўда, яе прыгоды на гэтым не скончыліся. Вардомская заехала на запраўку, але, выязджаючы, забылася дастаць шланг... Супрацоўнікі ДАІ афармілі гэтае здарэнне і аштрафавалі Каліну.

А збітая ёй Вольга тым часам зафіксавала пабоі і звярнулася ў міліцыю, каб пачаць крымінальную справу супраць вядучай. За хуліганства Вардомскай можа пагражаць да двух гадоў пазбаўлення свабоды.

Тэлеканал АНТ адхрысціўся ад сітуацыі. Кіраўнік канала Рыгор Кісель патлумачыў, што Вардомская, хоць і фармальна лічыцца ў штаце, у эфіры не з'яўлялася каля пяці гадоў.

Далейшыя перспектывы тэлевядучай не выглядалі вясёлкавымі, і на наступны дзень пасля бойкі Каліна стала прасіць прабачэння.

На сайце «Камсамольскай праўды» быў апублікаваны яе зварот да збітай Вольгі. «Я не спала ўсю ноч. Страшна раскайваюся ў тым, што адбылося. Гэта быў эмацыйны зрыў. Я вельмі шкадую, што не стрымалася. Мне вельмі сорамна. Я хачу папрасіць прабачэння ў гэтай жанчыны. У мяне насамрэч цяпер няпростая жыццёвая сітуацыя, я вельмі хвалююся за будучыню сваіх дзяцей», — заявіла Вардомская.

Паводле словаў знаёмых, ад гарачай тэлевядучай некалькі месяцаў таму сышоў муж.

Тым не менш сям'я пацярпелай настойвае, што давядзе справу да суда і даб'ецца пакарання Вардомскай.

**Ягор Марціновіч**



**Так, я не вытрымала і наваляла ёй**



**Вардомская біла моцна. У суперніцы гузакі і сіняк пад вокам.**

**З казіно — у навіны, а дачку назвала Сур'я**

Біяграфія Каліны Вардомскай напоўненая крутымі паваротамі і зменамі сферы дзейнасці. Яна нарадзілася ў Мінску, але з Беларусі разам з бацькамі пераехала ў Сібір, а пасля і ў Краснадарскі край. Там дзяўчына вывучылася на рэжысёра тэлевізійных і радыёпраграм. Вярнуўшыся з горада Цямрук у Мінск, Каліна нейкі час працавала ў казіно, а пасля ўладкавалася на АНТ.

Быў у яе жыцці і досвед жыцця ў Заходняй Еўропе. Больш за год яна жыла ў валанцёрскім экалагічным летніку ў Бельгіі.

Будучая тэлевядучая нарадзілася ў шматдзетнай сям'і. Калі Каліна з'явілася на свет, яе маці ўжо было 42 гады.

Маючы арыгінальнае імя, Каліна і сваіх дзяцей называла незвычайна. Спачатку нарадзілася Серафіма, а пасля блізняты Міра і Сур'я, якая наўрад ці знойдзе ў Беларусі хоць адну цёзку.

«Сур'я» з хіндзі перакладаецца як «сонца». Захапленне Індыяй узнікла ў Вардомскай некалькі гадоў таму. З таго часу, як кажуць знаёмыя вядучай, яна «жыве нібы ў космасе».



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Сурвэткі на памяць

Ідэалогія, сказала міністр інфармацыі Лілія Ананіч, паўсюль...

Апошнім разам я сустрэў Ідэалогію ў туалеце. Пасля шматгадзіннага стаяння на польска-беларускай мяжы — твар асвяжыць, вочы працерці...

Прыбіральня тая на першай ад мяжы айчыннай бензазапраўцы па начынні адпаведнымі прыладамі была не горшая за літоўскія і польскія — еўрапейскія. Што праўда, не блішчэла чысцінёй. А што ў нас дзе блішчыць? Мо ў Палацы незалежнасці? Але я там не быў. І пра Ідэалогію, якая там пануе, магу меркаваць па іншых прыкметах...

Ідэалогія, якую я сустрэў у той доўгачаканай прыбіральні, нахабна дэманстравала сваю незалежнасць ад неабходнасці мець хаця б кавалак паперы... З мокрым тварам, зняўшы акуляры, я асцярожна, каб не спатыкнуцца, пайшоў шукаць кагосьці, хто заклікаў бы Ідэалогію да парадку...

Мець справу з Ідэалогіяй для мяне, журналіста, не нова.

«Запісвайце, запісвайце!» — патрабавальна раіў Алесь Адамовіч, калі я расказваў яму, з якімі скаргамі звяртаюцца ў карпункт «Труда» людзі.

Першым у той шматгадовай, з 1976 года, чарзе быў пажылы вясковы мужык аднекуль з Гродзеншчыны. З грукатам паставіў на стол драўляны, як куфар, чамадан, расчыніў яго дрыжачымі пальцамі і падсунуў пад самыя вочы зжаўцелыя паперы: «Вось, вось, глядзіце...» Дзед мужыка яшчэ да Першай сусветнай меў колькі там гектараў зямлі... «Дапамажыце, каб вярнулі! — рашуча запатрабаваў мужык. — І каб хутар не зносілі!» Перад вачыма затросся яшчэ адзін стос жоўта-чырвоных папер. Гэта былі граматы ад калгаса, ад розных там райкамаў за ўдарную працу — з выявамі Сталіна з Леніным, Сталіна, Леніна ... Да ўсяго дадаліся пасведчанні аб бацькоўскім медалі «За адвагу» і ягонай заўчаснай смерці ад ран...

**Апошнім разам я сустрэў Ідэалогію ў туалеце**

Ці трэба тлумачыць, што дапамагчы небараку я так і не здолеў, хаця некуды званіў, пісаў, з кімсьці лаяўся... Але на той момант Ідэалогія ўзяла верх.

З цягам часу я навучыўся яе падманваць, абхітроўваць, нават выкарыстоўваць у мэтах дапамогі пакрыўджаным.

Аднойчы з'явілася цэлая дэлегацыя рабочых з завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. На 60-я ўгодкі той самай рэвалюцыі іх апранулі ў белыя кажушкі, каб у святочнай калоне яны выконвалі ролі партызанаў. Не сказаць, каб яны вельмі ўзрадаваліся. Ідэалогія паабяцала «партызанам» пакінуць кажушкі ў карыстанне. Бясплатна. Што тое азначала тады, трэба тлумачыць толькі моладзі. Але пасля начальства пазабірала тыя дэфіцытныя кажушкі сабе. Ідэалогія не перашкодзіла. Ох, даталося яму пасля нашай публікацыі. Вось якая была тады «чацвёртая ўлада»!

Наступны, каго памяць выхоплівае з той чаргі, — сціплы інжынер Міхаіл Аронавіч Гольдман. Вось каго сапраўды раздушыла Ідэалогія! Без аніякіх на тое падстаў, калі не лічыць самастойнасць супярэчлівых з начальніцкімі думак, звольніла з працы на шостым дзясятку жыцця. Нягледзячы на тое, што франтавік, на баявыя ўзнагароды. Ён у адзін суд — яна за ім, у другі — і яна туды ж... Аж да Генеральнага пракурора СССР!..

І ў той жа час паўсюль спявала «помнит Вена, помнят Альпы и Дунай...»

Ну, як было дапамагчы Міхаілу Аронавічу? Біць у званы, да якіх ён сам не лічыў магчымым дакранацца. Заціснуць Ідэалогію ў кут: «А ты ведаеш, хто напісаў гэтую песню?.. Лучанок?.. Так, Лучанок. А словы?.. Ясень?.. Так, Ясень. Ён жа Міхаіл Гольдман! Сціплы інжынер, якога ты, Ідэалогія, звольніла з працы і душыш жабрацтвам...»

Міхаіл Аронавіч Гольдман памёр 10 мая 2006 года, на другі дзень пасля 60-годдзя Перамогі над фашызмам. Пад гукі «Майскага вальса», словы якога напісаў Міхаіл Ясень.

А Ідэалогія, хай сабе змяніла аблічча, паўсюль.

...З мокрым тварам, зняўшы акуляры, у прыцемках я ледзь дабраўся да запраўшчыцы...

Яна сунула ў акенца цэлы стос папяровых сурвэтак.

«Навошта мне столькі?» — «Бярыце, бярыце... А то ўсё цягнуць і цягнуць, цягнуць і цягнуць...»

*kamerton_41@mail.ru*

**Здароўе**

# Мёд гоіць раны лепш за антыбіётыкі

Але не ўсялякі.

Гаючыя ўласцівасці мёду вядомыя ўжо не адну тысячу гадоў. Аднак толькі цяпер навукоўцы з універсітэта Лунда ў Швецыі адкрылі, што за бактэрыцыдныя ўласцівасці мёду адказны сімбіёз трынаццаці відаў малочнакіслых бактэрый, якія жывуць у валлячку пчол і адтуль трапляюць у мёд.

Праведзеныя тэсты паказалі, што па сваім антымікробным уздзеянні свежы мёд пераўзыходзіць антыбіётыкі! Прычым уздзейнічае на вялікую колькасць патагенаў адразу, у той час як антыбіётык можа быць скіраваны на барацьбу толькі з адным тыпам бактэрый.

Аднак лячэбнымі ўласцівасцямі валодае не любы мёд. Утрыманне малочнакіслых бактэрый залежыць ад спеласці мёду. Гаючы — мёд дзікіх пчол, прычым свежы. Такі мёд з'яўляецца сумессю спелага і няспелага мёду з утрыманнем вады 22–30%, што аптымальна для жыццядзейнасці малочнакіслых бактэрый. А пчаляры сёння збіраюць спелы мёд з утрыманнем вады менш за 20%, у якім жывых бактэрый няма. Дык вось, такі мёд для здароўя карысны, але антыбіётыкаў не заменіць, бо з цягам часу губляе свае бактэрыцыдныя ўласцівасці.

Навукоўцы спадзяюцца, што іх адкрыццё можна будзе выкарыстоўваць як альтэрнатыву антыбіётыкам, да якіх у людзей ужо выпрацоўваецца небяспечная звычка.

**Кірыла Хілько**

# Станіслаў Шушкевіч:

## «Калі б у нас была ядзерная зброя — НАТА пры канфлікце знішчыла б Беларусь»

На сядзібе БНФ прайшла сустрэча з першым кіраўніком незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам. Палітык узгадаў мінулае, а пасля распавёў свае **бачанне падзей у краіне і свеце**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Станіслаў Шушкевіч**

Нарадзіўся 15 снежня 1934 у Мінску. Сын рэпрэсаванага паэта Станіслава Шушкевіча. Пасля заканчэння БДУ (1956) працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук Беларусі, на Мінскім радыёзаводзе. У 1961—1967 і 1969—1990 гадах працаваў у БДУ (з 1986 — прарэктар). Доктар фізіка-матэматычных навук, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі. У 1990—1991 — першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета (1990—1991), у 1991—1994 — старшыня Вярхоўнага Савета.

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі.

### Пра шлях у палітыку: пасядзелі, выпілі...

Займацца палітыкай я не хацеў, дый не думаў, што пачну. Маці вечна баялася: бацька ж пры савецкай уладзе атрымаў 20 гадоў лагераў... Я і сам катэгарычна не любіў палітыкаў і марыў стаць фізікам.

Але калі выкладаў ва ўніверсітэце, мае калегі некалькі разоў вылучалі мяне на пасаду народнага дэпутата. Я, у сваю чаргу, заўсёды кандыдатуру здымаў. І вось аднойчы мы з імі трошкі пасядзелі, выпілі, і яны ўзялі з мяне слова, што на гэты раз я ў выбарах паўдзельнічаю. Слова я стрымаў. І за мяне прагаласавала большасць.

### Развал СССР: я запаважаў Бурбуліса

Калі мы ў 1991 годзе ехалі ў Белавежскую пушчу, у мяне і ў думках не было, што там можа быць прынятае такое рашэнне — маю на ўвазе канец існавання СССР. Мы збіраліся вырашыць пэўныя праблемы. Напрыклад, я хацеў угаварыць Ельцына дапамагчы Беларусі з нафтай і газам. Але наступіў такі момант, калі Бурбуліс спытаў мяне, ці пастаўлю я свой подпіс пад словамі: «СССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць павінен спыніць сваё існаванне». І я адказаў «так».

І вельмі запаважаў Бурбуліса: марксіст-ленініст, а як прыгожа сфармуляваў!

### Ельцын: адзіны, хто не мацюкаўся

Я лічу, што ён быў адзіным сапраўды абраным народам расійскім прэзідэнтам. Больш такіх не было. Я быў з ім у вельмі добрых адносінах, але, шчыра кажучы, ворагаў у Ельцына было больш, чым сяброў.

Барыс Мікалаевіч нямала піў — гэта вядомы факт. Але ён ніколі, нават у нецвярозым стане, не змяняў сваіх поглядаў і пазіцый. Мне гэта імпанавала.

Яшчэ мне падабалася, што Ельцын ніколі не лаяўся мацюкамі. Такіх сярод кіраўнікоў краін СНД наогул было толькі двое: ён і армянін Тэр-Петрасян. Астатнія мацюкаліся дай божа.

Ельцын многіх слухаў, і бывала, дзейнічаў па чужых парадах. Другую чачэнскую вайну ён пачаў, бо дарадцы былі такія.

### Пра ядзерную зброю ў Беларусі

На тэрыторыі нашай краіны была 81 ядзерная боегалоўка. З іх — 9 самых сучасных. І калі было падпісане Белавежскае пагадненне, я адразу заявіў, што мы гатовыя вывесці ядзерную зброю без усякіх кампенсацый і перадумоў. Бо калі б у будучыні чыста тэарэтычна паміж СНД і НАТА ўзнік бы канфлікт, НАТА павінна было б знішчыць Беларусь як краіну, якая валодае такім арсеналам. Існаванне ў Беларусі ядзернай зброі пагражала існаванню краіны. Гэта па-першае. А па-другое, утрыманне гэтай зброі ў баявым стане каштавала б краіне вялікіх грошай. І дзеля чаго яна была б нам патрэбная? Мы ўсё роўна не выкарысталі б яе, напрыклад, у рэгіянальным канфлікце, накшталт такога, які зараз адбываецца паміж Расіяй і Украінай.

### Пра Пазняка і кампрамісы

Я вельмі паважаю Зянона Станіслававіча. Ён заслугоўвае помніка хаця б за тое, што раскапаў Курапаты. Але, на жаль, Пазняк не здольны ісці на кампрамісы — ён лічыць іх абразай. А кампрамісы — гэта рухавік дэмакратыі.

### Пра выбары-2015

Выбараў не будзе! Гэта не выбары — гэта прызначэнне на пасаду. І дзеянні пэўнай колькасці апазіцыі — маўляў, мы высоўваем кандыдата, дайце нам грошай — гэта абы-што. У Еўропе не могуць уявіць нашай сітуацыі, што гэта не выбары. І тыя, хто звернецца па грошы на сваю кампанію, знойдуць там падтрымку.

Што рабіць у такім выпадку? Я выкладчык па прафесіі. Я магу растлумачыць, што адбываецца і чаму. А што рабіць — гэта заўсёды праблема. Байкатаваць выбары забаронена. Таму я проста на іх не пайду.

### Пра здароўе

А каб зноў удзельнічаць у вялікай палітыцы, трэба мець не толькі кваліфікацыю, але і здароўе. Таму кіраўніком краіны я больш стаць не магу. Цяпер я магу быць толькі добрым дарадцам. На большае не прэтэндую.

### Пра мову

У краіне ідзе прымусовая русіфікацыя. Наша дзяржава фактычна незалежная, але не беларуская. Я ж заўсёды лічыў, што дзяржаўная мова павінна быць адна. І гэтай мовай павінна быць беларуская. Але, вядома, патрэбен разумны пераходны перыяд. Не трэба рэзкіх крокаў.

### Пра сітуацыю ва Украіне

Тое, што адбываецца, — гэта трагедыя. Заўважна, што разбурэнне Украіны спецслужбы Расіі рыхтавалі шмат гадоў. Як сказаў палітолаг Збігнеў Бжэзінскі, «Расійская Імперыя не можа існаваць без Украіны».

Расія падтрымлівае расійскі ж фашызм ва Украіне, гэтым жа яна падтрымлівае і расійскі фашызм у сябе. А каб гэтага не заўважылі, фашыстамі яна называе ўкраінцаў.

Перамовы паміж удзельнікамі канфлікту патрэбныя. Наша роля ў іх аніякая, мы проста даем месца. Але добра, што гэтае месца ёсць. Пытанне поўнамаштабнай вайны з Украінай ці Расіяй я абмяркоўваць не хачу. Лепш памерці да таго, як такое пачнецца.

**Запісаў Улад Швядовіч**

# «Вясёлы шляхцюк» Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч: «Хопіць паказваць беларуса толькі як селяніна!»

Аніматар Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч вырашыў сумясціць сваю цікавасць да беларускай гісторыі з бізнэсам.

«Я родам з Бабруйшчыны, а там было шмат шляхты, у тым ліку і сярод маіх продкаў. Беларусы — гэта не толькі саха і каса. Мы шляхетны народ!

Раней я быў намеснікам дырэктара ў адной з турыстычных кампаній, але адначасова займаўся аніматарскай дзейнасцю, гэта быў дадатковы заробак. Недзе з год таму я вырашыў зрабіць яго асноўным. Так і з'явіўся «Вясёлы шляхцюк». Грошай атрымліваю не многа і не мала: можа, трохі больш за сярэднята мінчука.

Я арганізую і вяселлі, і сярэднявечныя вечарыны, але большасць замоваў — анімацыя падчас экскурсій. Гэта значыць, што звычайная экскурсія суправаджаецца нейкім сюжэтам. Напрыклад, паказваем сцэны з жыцця мінулага горада. Каля Ратушы — сцэнка, звязаная з магістратам, на Нямізе — з Усяславам Чарадзеем. Гледачы не толькі слухаюць, але нярэдка і ўдзельнічаюць у сцэнках. А пасля кожнай з іх гід тлумачыць сэнс убачанага.

Тосты, жарты... Дарэчы, нашыя строі — спрадвечна беларускія.

Мы выступалі перад расейскімі, украінскімі, літоўскімі турыстамі. Але сярод кліентаў заўсёды пераважаюць беларусы. На розныя святы нас запрашаюць і прафсаюзы, і прыватныя кампаніі.

Наша разынка — гэта беларуская мова. Гучыць дзіўна, але гэта праўда. Мова запатрабаваная!

Да беларускасці я прыйшоў сам. Бацькі ў мяне звычайныя, партыйныя, савецкія былі. Ва ўніверсітэце я сам пачаў нешта разумець і цікавіцца беларушчынай. Да таго ж нярэдка гутарыў са сваё бабуляй на тэму хто мы і адкуль мы. І ўсё гэта падштурхнула да пошукаў ведаў. З гэтай цікавасці да гісторыі потым і вырас «Вясёлы шляхцюк».

**УШ**



**Васіль разам з расійскай турысткай.**

# МАЗ перайшоў на трохдзёнку



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У Рэдакцыю звярнуўся супрацоўнік Мінскага аўтазавода. Сітуацыя на прадпрыемстве ўсё горшае. У жніўні вялікую частку падраздзяленняў перавялі на трохдзённы рэжым працы. «Напішыце пра гэта! — просіць ён. — Пакінулі толькі аўтобусную вытворчасць і некаторых вузкіх спецыялістаў на іншых месцах, і ўсё на гэтым. Астатнія — дома, — расказвае наш суразмоўца. — Так адбывалася ўвесь жнівень. У чацвер прыносіцца загад аб тым, што пятніца аб'яўляецца непрацоўным днём. Пасля да пятніцы далучыўся яшчэ і чацвер. У сераду прынеслі загад — у чацвер не працуем».
Варта адзначыць, што гэтыя прастоі сумленна аплачваюцца — людзі атрымліваюць 2/3 акладу. Але прэмію атрымліваюць толькі рабочыя. Тэхнічным работнікам яе не даюць.
Мы пазванілі на завод. З намі пагаварыў намеснік камерцыйнага дырэктара Сяргей Захарэвіч. Па яго словах, прадпрыемства працуе, зыходзячы з колькасці замоваў і аптымальнага размеркавання працоўнага часу. Так, праблемы ёсць, але ж, падкрэслівае ён, пяць дзён на тыдзень працуе больш за палову падраздзяленняў.
Ад сябе дадамо, што заканадаўства прадпрыемствам не парушаецца. Нашто выпускаць прадукцыю, на якую няма попыту? Гэта права завода — вырашаць, калі і колькі працаваць.
І, тым не менш, сітуацыя — трывожны званочак адносна перспектываў беларускага машынабудавання ў складзе Еўразійскага саюза.

**Улад Швядовіч**

## Настаўнік безабаронны!

Мая жонка працуе выкладчыкам у мінскай школе №19 (на Залатой Горцы за Філармоніяй).
Перад вакацыямі даюць «адпускныя», але іх памер такі, што дацягнуць да зарплаты ледзь хапае і прыходзіцца ўлічваць кожную капейку.
І вось мы дацягваем, падыходзіць дзень авансу (15 жніўня), на які разлічвае ўся сям'я, а ў бухгалтэрыі кажуць: «Мы забыліся своечасова падаць патрэбныя дакументы, таму аванс будзе выплачаны пазней».

**Уладзімір, Мінск**

### Прыватныя абвесткі

**ПАЗНАЁМЛЮСЯ**

**Пазнаёмлюся з беларускамоўнай дзяўчынай** шляхетнага паходжання. Андрэй. Т. (044) 745-21-52

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні.
З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса.
Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

## Як паслаць ахвяраванне праз Paypal?

«Наша Ніва», дадайце, калі ласка, для ахвяраванняў Easypay ці Paypal рахункі. Бо з WebMoney я не сябрую, а праз банк нязручна й ненадзейна, бо нават не ведаеш, ці дайшло ахвяраванне.

**Сяргей Паленік**

**Ад Рэдакцыі.** Дарагі Сяргею, беларускае заканадаўства пакуль не дазваляе прадпрыемству мець рахунак, атрымліваць грошы праз Paypal. Нарматыўныя акты ў гэтым кірунку толькі распрацоўваюцца.
Не было выпадкаў, каб ахвяраванне, дасланае праз банк, не дайшло. Даходзіць усё сто працэнтаў.
Вельмі радыя такім людзям, як Вы, якія разумеюць, што незалежная культура, гуманітарная навука і СМІ цяпер могуць існаваць толькі на ахвяраванні грамадзян.

## Куды збыць яблыкі?

Сёлета сады ломяцца ад яблык. Але магазіны Бешанковіцкага РСТ, якія раней рэгулярна прымалі яблыкі, бастуюць.
Тэлефаную ў краму Верхняга Крывіна. «Яблыкі не закупляем. Няма збыту. Аптовая база забіта яблыкамі».
Ржаўскі магазін: «Не прымаем. Забараніў райзаг».
Бухгалтар райзагу: «Не прымаем, бо затараны склады. Вінзаводы не прымаюць яблык!»
Аб'ядаліся б яблыкамі свінні ды каровы. Але вось бяда: свіней знішчыла афрыканская чума, а каровы звяліся самі.
Куды ж збыць яблыкі?

**М.Васільеў, Бешанковіцкі раён**

### Водгукі

**Мы ў Беларусі жывём ці не ў Беларусі? (№33)**

Добры дзень, шаноўная Рэдакцыя маёй любімай газеты. Даўно збіралася Вам напісаць аб падобным. Павезла я дзяцей у Музей народнай архітэктуры і побыту. Зайшлі там у будынак школы, а там — стараславянскі алфавіт, з яцямі і ерамі. Пытаюся ў працаўнікоў музея: а чаго ж з яцямі? Лепш бы не пыталася…
А вось — прыклад адваротнага ад літоўцаў. Падручнік для пачатковай школы. Напісана: «Скарына выдаў у Вільні першыя дзве ва Усходняй Еўропе кнігі». Але ілюстрацыяй — дзве літоўскія кнігі. Так і нам трэба ва ўсім ставіцца да выхавання новага пакалення. Няхай яны сутыкаюцца з беларускім усюды, дзе можна.

**Вольга Крэсік**

Падпісваюся пад кожным словам артыкула! Прапаную, каб усе чытачы «НН» скіравалі свае аналагічныя скаргі ў Мінсувязі.
А наконт пытання — мы жывём у Беларусі ці не — я б адказаў так: кожны чалавек можа вакол сябе стварыць патрэбную яму атмасферу, у тым ліку і беларускамоўнасці. Напрыклад, я гляджу беларускамоўны канал «Белсат», слухаю радыё «Рацыя» і «Свабода», пішу, чытаю, размаўляю на беларускай мове
Але пры ўсім гэтым трэба патрабаваць ад улады тое, што нам належыцца па праве: хаця б адзін поўнасцю беларускамоўны тэлеканал за дзяржаўныя грошы, беларускамоўныя школы і садкі. Трэба змагацца далей і не апускаць рукі.

**Юрась Навіцкі, Мінск**

Жывём мы ў Беларусі. І гэтая краіна такая, якая яна ёсць. Іншай няма! Жадаем змяніць яе — зменім, не пажадаем — будзем ныць і шукаць вінаватых.

**Правінцыял**

В настоящее время мы живем в Союзном государстве России и Беларуси, в ЕврАзЭС и ТС.

**RRR**

На Дзень беларускага пісьменства ў Заслаўі можна было шмат дзе купіць вясёленькі чорны сцяжок з чэрапам і касцямі, а старадаўняй крывіцкай «Пагоні» нельга. Бо недазволеная сімволіка. Дык дзе мы жывём? Ясна, у Беларусі, толькі не беларус гаспадар тут, а чужынская марыянетка.

**Жыхар Абсурдыстана**

Такое ўражанне, што чалавек з Месяца зваліўся... Няўжо яшчэ некаму незразумела, што змяніць сітуацыю можна толькі праз змену ўлады? А ўсе гэтыя гісторыі з напісаннем «слёзных» лістоў лукашэнкаўскім бюракратам ужо надакучылі... Усе гэтыя звароты нагадваюць селяніна з вядомай байкі: «Дазвольце мне, паночку, у маёй хаце пад лаўкай ночку начаваці...»

**Машэка**

### Апытанка на nn.by

**Мы ў Беларусі жывём ці не ў Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| А дзе ж яшчэ — у Беларусі | 201 | 21% |
| Не, гэта не Беларусь, а Белоруссия | 217 | 23% |
| Мы ўжо не ў Беларусі | 89 | 9% |
| Мы яшчэ не ў Беларусі | 230 | 24% |
| Так адразу і не зразумееш... | 42 | 4% |
| Але ўсё ж дойдзем, дойдзем мы... | 178 | 19% |

Усяго прагаласавалі 1058 чалавек




### Ай-яй-яй!

**На радзіме Якуба Коласа (горад Стоўбцы) не ведаюць, на якой мове пісаць яго вершы. Вырашылі на абедзвюх? А дом, глядзіце, які дагледжаны...**

**Даслаў чытач Вадзім**



### Жарт



Усевалад Сцебурака
## Не стала паэтаў

Не стала паэтаў —
ні цютчаў, ні фетаў.
Былі ж, і нямала,
і нават Купала!
Ці музаў не стала,
ці планка ўпала,
ці годнага звання
паэта замала?
Ды так ці іначай —
паэтаў нястача.
Зваліся паэты
на многія леты.
Адклаўшы пяро, шпагі ды пісталеты,
забіўшы на оды,
каханні, прыгоды,
згубіўшы запал і пісьменніцкі спрыт,
натоўпам маўклівым сышлі ў нябыт.
…
Быў адзін графаман Фама –
І таго няма!

Беларускамоўным вучням **няма** ні дапаможнікаў, ні контурных картаў.

# Такая розніца

Знайсці для свайго дзіцяці месца ў беларускамоўным класе — складаная задача. Не ва ўсіх гарадах і не ва ўсіх мікрараёнах Мінска яны ёсць. Але на гэтым бацькоўскія нягоды не заканчваюцца. Няма падручнікаў і дапаможнікаў на мове.

«У дадатак да школьнага набору падручнікаў патрэбныя працоўныя сшыткі, атласы, карты, — кажа Крысціна Вітушка, маці Мірона, які ходзіць у мінскую гімназію №23. — Дык вось, па прадмеце «Гісторыя» ў 5 класе ні сёлета, ні летась не рабілася дзяржаўная замова і не выпускаліся карты і атласы па-беларуску. У бібліятэцы гімназіі ёсць атласы мінулых гадоў выдання, але контурныя карты — прадукт аднаразовага выкарыстання, і іх няма».

За выпуск контурных карт у Беларусі адказвае «Белкартаграфія». Пералік прадукцыі на сайце прадпрыемства пацвярджае скаргі бацькоў: па-беларуску выпускаюцца толькі контурныя карты па гісторыі Беларусі і прадмеце «Чалавек і свет» для 4 класа. Дапаможнікі па сусветнай гісторыі, геаграфіі — толькі па-руску. Вось табе і хвалёнае раўнапраўе.

Апошні наклад беларускамоўных атласаў па гісторыі старажытных часоў «Белкартаграфія» выдала ў 2012-м невялікім накладам — 7365 асобнікаў. Зразумела, усім не хопіць. Па-беларуску ў краіне вучацца 16% школьнікаў. Пакуль яшчэ 16.




**Мяне няма**

Са свечкай не знойдзеш не толькі беларускамоўных контурных карт, але і вeeраў з беларускімі літарамі для першакласнікаў, простых сшыткаў з табліцай множання, падручнікаў і сшыткаў па англійскай Magic Box для малодшых класаў, дапаможнікаў па рэдкіх замежных мовах, якія вывучаюцца ў гімназіі, дапаможнікаў з дадатковымі заданнямі, без якіх цяпер не ўявіць навучальны працэс…

За падручнікі адказвае Нацыянальны інстытут адукацыі. Там жа пралічваюць і неабходныя наклады расійскамоўных і беларускамоўных выданняў.

«Атлас уваходзіць у камплект падручнікаў, які выдаецца ў школе, — патлумачыў начальнік аддзела па забеспячэнні сродкамі адукацыі Андрэй Халімановіч. — Па заканчэнні навучальнага года яны вяртаюцца ў бібліятэку. Цяжкасці могуць узнікаць, калі дапаможнік даўно не перавыдавалі і ён знасіўся. Ці калі вучань ходзіць у рускамоўную школу, а бацькі хочуць яму купляць беларускамоўныя дапаможнікі. Тады, можа, давядзецца пабегаць, пашукаць. Але беларускамоўныя атласы і карты мусяць быць. Я іх асабіста рыхтаваў».

Аднак у продажы іх няма! Ва ўпраўленні навучальнага кнігавыдавецтва НІА патлумачылі, што выданне атласаў фінансуецца з бюджэту і адбываецца па дзяржзамове. А вось контурныя карты выдаюцца за сродкі самой «Белкартаграфіі» — галоўную ролю адыгрывае попыт і заяўкі ад гандлёвых сетак. На жаль, церпіць ад гэтага беларускамоўны спажывец: прадаваць рускамоўныя дапаможнікі выгадней. А тыя беларускамоўныя... Абыдуцца!

Базавыя беларускамоўныя падручнікі вучням выдаюць. Але за межамі школьнай бібліятэкі пра гарантаваную роўнасць моваў казаць не даводзіцца.

Недахоп беларускамоўнай метадычнай літаратуры педагогі кампенсуюць рускамоўнай. Маўляў, дзеці і так зразумеюць. Так, напрыклад, пракаментавала адсутнасць беларускамоўных контурных картаў дырэктарка беларускамоўнай 28-й гімназіі Мінска Ніна Лазоўская: «Дык а што, на рускай мове нельга прачытаць? Яны адрозніваюцца? Там Мінск, тут Мінск. Якая розніца?»

Так, розніца толькі ў тым, што такім чынам беларусаў русіфікуюць. Паслядоўна, са школы, у вялікім і малым. Паглядзелі б вы на рэакцыю, калі б рускім выдавалі контурныя карты па-беларуску. Вось такая «розніца».

**Кірыла Хілько**

**In memoriam**

# Пятро Марцаў

Бізнэсовец Пятро Марцаў за тры тыдні згарэў ад вострага лейкозу. Гэта анкалагічная хвароба, і яму адразу, толькі выявіўшы яе, пачалі рабіць хіміятэрапію. Гэта падарвала імунітэт, з'явіліся ўскладненні, сепсіс. У суботу ён памёр, не прыходзячы ў прытомнасць.

Ён быў стваральнікам «Белорусской деловой газеты» — самага паспяховага праекта той эпохі, калі незалежная прэса і бізнэс яшчэ былі сумяшчальныя.

«У савецкі час, як шмат каму з журналістаў, мне хацелася стварыць сваю газету, — расказваў Марцаў. — У пачатку 90-х, як і многія, я заняўся бізнэсам — было цікава, хацелася грошай, дый авантурны склад мыслення дапамог. Тады нешматлікія рызыкавалі гэтым заняцца, а з гэтых нешматлікіх зусім нямногія выжылі — у прамым і пераносным сэнсе. ...Купілі 5 камп'ютараў, прадалі пяць камп'ютараў. Потым яшчэ раз. Потым ужо купілі аўтамабілі — прадалі аўтамабілі. Гандаль «Жыгулямі» па «экспартнай схеме Беразоўскага» — тады гэта быў прыбытковы бізнэс. Але думка пра тое, што патрэбна ўласная газета, не пакідала... Так што той самы славуты «першы мільён» быў выдаткаваны на газету».

Газета Марцава спярша звалася «Биржи и банки», пасля — «Белорусская деловая газета». Паралельна з сярэдзіны 90-х рабілася газета «Имя», а ад «БДГ» у выніку працоўнага канфлікту адкалолася частка калектыву, якая стварыла сённяшнюю «Белгазету».

Марцаў меў дзівоснае чуццё на таленты. У «БДГ» працавалі зоркі: Святлана Калінкіна, Валянцін Жданко, Павел Шарамет, Аляксандр Фядута, Андрэй Махоўскі... Усіх не пералічыш.

У 2000-х выдавецкае прадпрыемства «Марат» проста разбурылі штрафамі, «БДГ» спыніла выхад.

«Калі б я развітваўся з гэтай краінай, з гэтымі людзьмі і са сваім іміджам, я мог бы яго абсалютна разбурыць, расказаўшы пра сябе ўсё, што я спрабаваў у гэтым жыцці», — прызнаваўся і мо трохі выхваляўся Марцаў.

Марцаў курыў, як паравоз, як і Сіліцкі, Германчук, сотні іншых, што адышлі без пары. Ён любіў каньяк, захапляўся жанчынамі. Яму падабаўся вобраз бонвівана, ён не раз расказваў у інтэрв'ю, як быў жанаты пяць разоў. Гэта быў чалавек жарсны. Але галоўнай яго жарсцю была ягоная справа.

«Я прападаю на працы. Гадамі. Ужо шаснаццаць гадоў прападаю на працы з раніцы да вечара...»



**Спачуванні праз nn.by**

Не магчыма змірыцца з гэтай стратай. Пятро належаў да інтэлектуальнай эліты краіны. Як яго будзе не хапаць нам. Глыбокія спачуванні родным.

**Алесь Мілінкевіч**

Мае спачуванні родным і блізкім.. На жаль, ён паўтарыў трагічную гісторыю св. пам. Ігара Германчука.

**Лявон Баршчэўскі**

Горкая навіна! Шчырыя спачуванні блізкім!

**Уладзімір Ляхоўскі**

Вечны адпачынак дай яму Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць! Няхай спачывае ў спакоі вечным!

**Руслан Равяка**

Шчырыя спачуванні сваякам і блізкім!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

**Міхаіл Капцэвіч**

16 верасня пасля працяглай хваробы памёр заснавальнік і дырэктар турыстычнай кампаніі «Росцінг» Міхаіл Капцэвіч. 26 жніўня Міхаілу споўнілася 39 гадоў. У яго засталося трое дзяцей.

**Каму служым?**






**На фота: агітацыйныя ўлёткі ў праваслаўнай царкве ў Чашніках. Да ведама: у Чашніцкім раёне родная мова — беларуская ў 73,27% жыхароў, беларусаў — 91,43 %. Узнікае пытанне: каму служыць гэты святар? Богу ці Расіі?**

# Ідэолагі патапілі «Заходнебеларускую Атлантыду»



Выстава ў Заслаўі не ўпісалася **«ў рамкі савецкай канцэпцыі»**.

16 верасня гісторыка-культурны музей-запаведнік у Заслаўі наведалі начальнік аддзела ідэалогіі і культуры Мінскага райвыканкама Сяргей Кудзін і прадстаўнік Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Пасля агляду, які заняў усяго пяць хвілін, чыноўнікі і пажарны інспектар вынеслі вердыкт: у музеі не ўсё ў парадку з электраправодкай, таму выставу «Заходнебеларуская Атлантыда», якая там праходзіць, трэба згарнуць.

Тая выстава была прымеркаваная да 75-годдзя пачатку Другой сусветнай вайны, якая прыйшла на заходнебеларускія землі ў верасні 1939-га. «Атлантыда» складаецца з 300 дакументаў і артэфактаў, сабраных гісторыкам і калекцыянерам Ігарам Мельнікавым (на фота). Палова экспанатаў — рэчы арыгінальныя.

Выстава адразу сустрэла непрыманне ідэолагаў. Кіраўнік упраўлення ідэалагічнай работы Мінаблвыканкама Руслан Трухан, па словах Мельнікава, наведаў яе перад адкрыццём і пабачыў небяспеку. «Такая выстава прыніжае ролю СССР, правапераемніцай якой з'яўляецца Беларусь, а значыць прыніжае і саму Беларусь», — паўтарыў гісторык словы ідэолага. Афіцыйных папер ніхто не атрымліваў, усё абмежавалася словамі: «Рабіце што хочаце, але выстава не павінна працаваць».

Дырэктар музея Мікалай Пагранoўскі спрабаваў экспазіцыю адстаяць. «Майце мужнасць спакойна ўспрымаць нашу гісторыю!» — сказаў Пагранoўскі на адкрыцці выставы.

«Якая «няспраўнасць электраправодкі»? Праводку мянялі ў жніўні. Зрабілі добры капрамонт, былі ўкладзеныя 200 мільёнаў», — расказвае Ігар Мельнікаў. Выставу, кажа ён, знялі, каб нішто не нагадвала, што жыццё на нашай зямлі было і да СССР, а 1939 прынёс не толькі радасць уз'яднання, але і рэпрэсіі.

Журналісты былі апошнімі, хто пабачыў выставу. Не прайшло і гадзіны пасля візіту чыноўнікаў, як супрацоўнікі музея прыцягнулі торбы, каб пакаваць экспанаты.

Дырэктар музея ад каментароў адмовіўся. «Заходнебеларускую Атлантыду» дэмантавалі.

**ВГ**

## Ранак у беларускамоўным McDonalds

Ранкам я забегла ў McDonalds, каб выпіць кавы. Гэтае месца, дарэчы, да 9 раніцы зусім не той McDonalds, да якога мы звыкліся: з чэргамі і гоманам. Зранку тут пахне смачнай кавай, нешматлюдна. Ніхто нікуды не спяшаецца.

Гэтая раніца зрабіла ўвесь мой дзень. Не паспеўшы ўвайсці, я пачула прыемныя для вушэй словы: «Калі ласка, ваша кава».

І мова гучала не як нешта сціплае. Хлопец гучна і выразна прамаўляў кожнае слова. І рабіў гэта з такім гонарам і задавальненнем, што калі ты не размаўляеш на беларускай мове, дык дакладна захочаш. А калі дадаць фірмовую ветлівасць супрацоўнікаў McDonalds, дык усё гэта ператвараецца ў сапраўдны цуд. «Што жадаеце? Прыходзьце яшчэ. Будзем рады вас бачыць», — гэтая плынь словаў не спынялася.



**18-гадовы студэнт БДЭУ Ігар Ліштван падпрацоўвае ў McDonalds і абслугоўвае кліентаў выключна па-беларуску.**

Тут было ўсё як у фільме. Беларускамоўным фільме. Як толькі я прамовіла першае слова, між намі імгненна ўтварыўся іншы свет, з якім я ўсё ніяк не магла развітацца. Таму замаўляла і замаўляла, толькі пасля зразумела, што столькі з'есці я не змагу. Калі чуеш беларускую мову, чалавек адразу становіцца для цябе значна бліжэйшым, чым іншыя.

Гэта была найлепшая кава, якую мне даводзілася піць. І ранак таксама — я сустрэла яго ў сапраўднай, еўрапейскай і прыгожай Беларусі, такой, якой яна павінна быць.

**Вольга Гарапучык**



## Модны market: як, што і навошта

У Мінску на выходных прайшоў Fashion market, дзе сто дызайнераў і майстроў handmade прадавалі сваю прадукцыю.

Маркет праходзіў у Палацы мастацтваў, ён заняў два паверхі. Не паспееш прымераць завушніцы — цябе ўжо клічуць на майстар-клас па здаровай ежы, а там і чарговы паказ калекцый адзення, па дарозе ж абавязкова захочацца прымераць сукенку.

Прыемна, што такія маркеты ладзяцца ў Беларусі ўсё часцей. Гэта выдатная магчымасць набыць прыгожыя рэчы і падтрымаць дызайнераў.

Цёплае дызайнерскае восеньскае шарсцяное паліто можна было знайсці за мільён. Сукенкі, спадніцы ды кофты — ад 500 тыс. Але ж рэчы з такіх маркетаў эксклюзіўныя.

Я не стрымалася і набыла торбачку з арнаментам брэнда Farbotka, які трымае беларуская дызайнерка. Праўда, яна раскруціла сябе ў Польшчы, таму прадукцыя пазіцыянуецца як польская.

Такі фармат продажу дызайнерскага адзення пашыраны ў свеце. Звычайна модныя калекцыі прадаюцца ў невялікіх шоу-румах. У Мінску яны таксама ёсць, але пра іх мала хто ведае. Таму Fashion market, які сабраў вялікую колькасць дызайнераў, у будучыні можа стаць своеасаблівай школай густу для беларусаў.

**ВГ**



## Сціcла

### «Песняроў» пераспявалі, але не абспявалі

12 верасня ў мінскім клубе «Рэпаблік» прэзентавалі супольны праект «Re:Песняры». Зладзіў яго музычны партал «Тузін гітоў» супольна з кампаніяй «Будзьма» і фондам мецэната Паўла Бераговіча «Вяртанне». Зміцер Вайцюшкевіч пераспяваў «Вераніку», Памідораў — «Скрыпяць мае лапці», альтэрнатыўшчык Пукст — «Александрыну», чараўнікі з «Акутэ» — «Алесю». На канцэрце адбылося таксама першае і апошняе выкананне гуртом «Нака» песняроўскай «Малітвы» — аўтар, кампазітар Алег Моўчан, не дазволіў запісваць песню ў новай версіі. Але найбольшага чаду даў дзяржаўны ансамбль «Песняры», якія запальна выканалі хіты сваіх вялікіх папярэднікаў. Публіка была ў захапленні.

### Noize MC зламаў сцэну ў Мінску

У мінскім парку Dreamland выступаў расійскі спявак Noize MC. Спяваючы рымэйк на песню «Танцы» гурту «Воплі Відаплясава», саліст паклікаў танчыць на сцэну ўсіх гасцей. Ад цяжару сцэна правалілася. Але спявак працягваў выступ са словамі: «Калі я патраплю ў беларускую каналізацыю, ведайце — гэта быў вельмі добры канцэрт!»

**СМ**

## Прыватныя абвесткі

**СТУДЫЯ НАРОДНАЙ ВЫШЫЎКІ**

**Майстар народнай творчасці Галіна Рудніцкая** запрашае ў студыю беларускай народнай вышыўкі. Заняткі з кастрычніка па май — раз на тыдзень (ранішнія і вячэрнія групы). Адрас: вул.Гікалы, 4 (станцыя метро «Плошча Якуба Коласа»). Для іншагародніх магчымае інтэнсіўнае навучанне. Заняткі два разы на месяц з лістапада па сакавік. Тэлефон: (029) 171-13-90.

**ВАКАНСІЯ ВЫХАВАЛЬНІЦЫ Ў БЕЛАРУСКАМОЎНУЮ ГРУПУ**

**У д/с 156, вул. Я.Коласа 25/3, патрабуецца выхавальніца** на 0.93 стаўкі для догляду вучняў 1-га класа беларускамоўнай гімназіі з 12:00 па 18:30. Патрабаванні: сярэдняя спецыяльная педагагічная альбо вышэйшая адукацыя, валоданне беларускай мовай. Звяртацца да загадчыцы Ірыны Сяргееўны, т. 292-31-12.

## ІМПРЭЗЫ

### Вечар са Святланай Алексіевіч



**17 верасня ў кнігарні «логвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37А)** пройдзе літаратурны вечар са Святланай Алексіевіч «Час для нон-фікшн: размова аб краіне і літаратуры». Пачатак імпрэзы а 19.

### Вечар з Дубаўцом: «Сіні карабель у блакітным моры плыве»

Літаратурныя коміксы з мантрамі і саўндтрэкам, псеўдафіласофскія барэльефы нашай беднай цывілізацыі, пошукі вечнасці ў гэтым дачасным свеце і ўсё астатняе, чаго няма, не бывае й не можа быць, — у новай кнізе Сяргея Дубаўца «Сіні карабель у блакітным моры плыве». Прэзентацыя адбудзецца 17 верасня а 18:00, «логвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37А).

## ФУТБОЛ

### БАТЭ — «Дынама» Мінск

**22 верасня на «Барысаў-Арэне»** адбудзецца цэнтральны матч 24-га тура. Пачатак бітвы паміж БАТЭ і «Дынама» ў 19.30. Апроч таго, 20 верасня прайдуць матчы «Белшына» (Бабруйск) — «Слуцк», «Шахцёр» (Салігорск) — «Нафтан» (Наваполацк) і «Дняпро» (Магілёў) — «Дынама» (Брэст), а 21 верасня — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Гомель» і «Нёман» (Гродна) — «Мінск».

## ХАКЕЙ




### «Дынама» (Мінск) на «Мінск-Арэне»

**Працягваецца сезон Кантынентальнай хакейнай лігі.** 18 верасня «Дынама» прымае «Северсталь» з Чарапаўца (пачатак а 19), а 20 верасня гуляе з «Тарпеда» з Ніжняга Ноўгарада (пачатак а 17).

## КАНЦЭРТЫ

### Scooter у Мінску



**27 верасня ў Prime Hall (пр. Пераможцаў, 65)** выступіць славуты гурт Scooter. Нямецкія выканаўцы энергічнай танцавальнай музыкі прыедуць у Мінск у рамках тура да 20-годдзя гурту. Пачатак а 19.

### Re:Live

**18 верасня а 19 у клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** у межах праекта Re:Live выступяць гурты «НагУаль», Plum Bum, Harotnica.

### Іван Кірчук

**18 верасня а 19 у КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** пройдзе творчы вечар Івана Кірчука, на ім музыка прэзентуе сваю новую кнігу.

### Tricky

**24 верасня ў Prime Hall (пр. Пераможцаў, 65)** — выступ вядомага трып-хоп-выканаўцы Tricky. Пачатак а 22.

### «Палац»

**24 верасня ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае фолк-гурт «Палац». Пачатак а 19.



# От такі Zabor

На адной з фатаграфій з выставы сучаснага беларускага мастацтва ў Мастацкім музеі **зафарбавалі нацыянальны сцяг**.

На здымку работнік ЖЭСа зафарбоўвае надпіс на сценцы дома. Незамаляваным застаецца нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. Работніца музея замазала на фатаграфіі «крамольны» сцяг губкай. Арт-выстава сучаснага мастацтва Zabor адкрылася 10 верасня ў Мастацкім музеі (Леніна, 21). Тут найбольш поўна сабрана калекцыя сучаснага беларускага мастацтва. У межах выставы пройдуць лекторый; экскурсіі па залах з мастакамі ў ролі гідаў; вечары-кінапаказы; майстар-класы па жывапісе; спецыяльныя экскурсіі для дзяцей.




## ВЫСТАВЫ

### Глобус, Вашкевіч, Пушкін

**Галерэя твораў Шчамялёва (Ракасоўскага, 49)** прапануе ўвазе гледачоў праект «Дыялог эпохі. Інтэрпрэтацыі». Удзельнікі праекта — сучасныя мастакі і скульптары, якія выкарыстоўваюць у сваіх творах прынцып цытавання вобразаў класічнага і постакласічнага мастацтва. На выставе можна пабачыць работы Адама Глобуса, Руслана Вашкевіча, Алеся Пушкіна.

## ТЭАТРЫ

### 17 верасня

**Беларускай драматургіі** — Сталіца Эраўнд
**Купалаўскі** — Translations
**Оперы і балета** — Тамар, Шахеразада
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 18 верасня

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Оперы і балета** — Турандот
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 19 верасня

**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Купалаўскі** — Пінская шляхта
**Лялек** — Тарцюф
**Оперы і балета** — Анюта
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 20 верасня

**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Чырвоны каптурок
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 21 верасня

**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Мыйдадзір
**Оперы і балета** — Набука
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 22 верасня

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Оперы і балета** — Сем прыгажунь

### 23 верасня

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Офіс
**Оперы і балета** — Князь Ігар
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

### 24 верасня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жыззлі
**Купалаўскі** — Офіс
**Оперы і балета** — Князь Ігар
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

## КІНО

### Таямніца школы жорсткага рэжыму

Зіп і Зап. Клуб шкляных шарыкаў
Жанр: прыгоды, сямейны
Рэжысёр: Оскар Сантас Гомес
У ролях: Хаўер Гуцьерас, Рауль Рывас, Дэніэл Цэрэза, Клаўдзія Вега, Фран Гарсія, Маркас Руіс, Крысціян Мулас
Іспанія, 97 хв.

Браты Зіп і Зап ў пакаранне адпраўленыя ў летнюю школу перавыхавання «Эсперанца», якой кіруе аднавокі дырэктар Фальканеці. Вельмі хутка яны даведваюцца, што гэта месца, дзе гуляць забаронена. Таму браты арганізуюць Клуб шкляных шарыкаў, які становіцца сімвалам супраціву дзяцей супраць жорсткіх парадкаў. Выпадкова хлопцы дазнаюцца пра таямніцу, якую хавае дырэктар і яго прыслужнікі...

Культавыя іспанскія коміксы пра братоў-блізнятак Зіпа і Запа (аўтар — Хасэ Эскабар Сальентэ) атрымалі новае жыццё ў кінематографе. Нягледзячы на коміксавую першакрыніцу, фільм зняты ў класічным стылі, ён яркі, маляўнічы, з бездакорна выстаўленай кампазіцыяй кадра. Гэта гісторыя гарэзлівых дзяцей, якія не гатовыя стаць дарослымі па загадзе і раздражняюць персанал школы вясёлымі здарэннямі. Тут ёсць нязлыя жарты, прыгоды ў падзямеллі, цікавыя таямнічыя механізмы. Стужка няспешная, прыгожая і трошкі страшная, для ўдумлівых дзяцей і іх бацькоў, звыклых да класічнага еўрапейскага кіно.

**Настасся Уласава**



# Невядомы 1939. Чысцільшчыкі

17 верасня 1939 года, 75 гадоў таму, савецкія войскі ўвайшлі ў Заходнюю Беларусь. СССР падзяліў Усходнюю Еўропу з гітлераўскай Германіяй. Але для беларусаў і ўкраінцаў гэта парадаксальна азначала ўз'яднанне, гістарычны шанец. У гісторыі не бывае простых шляхоў. Гісторык **Анатоль Вялікі** аналізуе некаторыя раней **невядомыя дакументы** той пераломнай эпохі — пра механізмы дзеяння савецкіх спецслужбаў.




**Брэсцкае ўпраўленне НКВД склала картатэку на 220 тысяч, а Беластоцкае — аж на 350 тысяч «падазроных асоб»**

1 верасня 1939 года Сталін правёў нараду з кіраўніцтвам Чырвонай арміі і НКВД, на якой абмяркоўвалася сітуацыя ў Польшчы. А 8 верасня наркам унутраных спраў Савецкага Саюза Л. Берыя падпісаў загад аб стварэнні пяці аператыўна-чэкісцкіх груп (АЧГ) — па 50—70 чалавек у Кіеўскай і па 40—55 чалавек у Беларускай вайсковых акругах. Кожнай групе прыдавалася па адным батальёне, 300 салдат, з памежных войскаў.

15 верасня дырэктывай саюзнага НКВД вызначаліся іх задачы. На гэтыя групы ўскладвалася арганізацыя часовых упраўленняў у занятых гарадах. АЧГ мелі заняць усе ўстановы сувязі (тэлеграф, тэлефон, радыё, пошту); памяшканні ўсіх дзяржаўных і прыватных банкаў, усіх сховішчаў каштоўнасцей; архівы (асабліва архівы спецслужбаў); турмы, вызваліўшы з-пад варты ўсіх палітычных арыштаваных, астатніх утрымліваць пад надзейнай аховай; тыпаграфіі, рэдакцыі газет. Адначасова ім адразу ставілася задача арыштаваць «контррэвалюцыйныя элементы». Належала таксама канфіскоўваць у людзей радыёпрымачы, зброю.

У рэальнасці дзесяці аперчэкгруп аказалася замала. 18 верасня кіраўнік беларускага НКВД Цанава і Бачкоў (старшы маёр дзяржбяспекі, начальнік Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі НКВД СССР, які з верасня 1939 г. каардынаваў дзейнасць АЧГ у Беларусі) дакладвалі Берыю аб арганізацыі працы часовых упраўленняў у Дзісне, Глыбокім, Вілейцы, Маладзечне, Валожыне, Стоўбцах. Па меры прасоўвання савецкіх войскаў паўсталі аперчэкгрупы ў Радашкавічах, Навагрудку, Ваўкавыску, Клецку. 20 верасня — у Свянцянах і Вільні. Надалей АЧГ былі створаны і ў іншых гарадах Заходняй Беларусі.

Арышты «контррэвалюцыйных элементаў» пачаліся літаральна з першых дзён.

З першага дня вызначыўся Вячаслаў Грыднеў, кіраўнік АЧГ у Ваўкавыску, які 18 верасня 1939 г. у Нясвіжы «узяў князя Радзівіла і яго атачэнне — каля 30 чалавек». У Вільні адзначыўся начальнік агентурнага аддзялення Віленскай апергрупы Георгій Аксюцін, які «асабіста высачыў і арыштаваў зацятых контррэвалюцыянераў — братоў Пілсудскіх. Пілсудскага Яна, былога міністра фінансаў, і Пілсудскага Казіміра, былога міністра грамадскіх работ».

Але гэта быў толькі пачатак. «Контррэвалюцыйных элементаў» спачатку арыштоўвалі дзясяткамі, пасля сотнямі, а пасля і тысячамі.

У лік іх папала і беларуская інтэлігенцыя. Віленскай АЧГ на пачатку кастрычніка быў арыштаваны Уладзімір Самойла, а 13 кастрычніка — Антон Луцкевіч.

Па стане на 22 кастрычніка «было арыштавана 4315 чалавек. З іх: буйных прадстаўнікоў памешчыкаў, князёў, дваран і капіталістаў, якія падазраваліся ў шпіянажы, — 500 чалавек; рэакцыйных прадстаўнікоў урадавай адміністрацыі: а) ваявод, стараст, намеснікаў ваявод і стараст, бурмістраў і іх бліжэйшых памочнікаў — 401; б) кіраўнікоў мясцовых органаў паліцыі, жандармерыі, пагранічнай аховы і 2-га аддзела польгенштаба — 716; кіраўнікоў і актыўных членаў контррэвалюцыйных партый — 640; бандытаў — 125; агентаў польскай разведкі і правакатараў — 512; белагвардзейцаў, удзельнікаў белагвардзейскіх манархічных арганізацый — 28; агентаў паліцыі і жандармерыі — 595; агентаў германскай разведкі — 3; асаднікаў, якія звязаны з польразведкай, — 117; абвінавачваных у шпіянажы — 323; іншы контррэвалюцыйны элемент — 265».

Для польскага грамадства ўваход Чырвонай Арміі быў нечаканасцю. Польская разведка палічыла перамяшчэнні савецкіх войскаў на пачатку верасня зразумелай рэакцыяй Савецкага Саюза на пачатак вайны ў Еўропе. Таму ніхто з «польскай буржуазіі» не кінуўся наўцёкі ад небяспекі з усходу. Між тым НКВД БССР задоўга да верасня 1939-га пачаў складаць спісы тых, каго трэба «изъять». Гэтую работу ў 2-м аддзеле НКВД БССР узначальваў капітан А.Сяргееў, які «яшчэ да ўступлення часцей РСЧА на тэрыторыю Заходняй Беларусі праявіў вялікую ініцыятыву і энергію ў падборы матэрыялаў на контррэвалюцыйны элемент Заходняй Беларусі».

НКВД меў на тэрыторыі Заходняй Беларусі разгалінаваную агентурную сетку.

А таксама НКВД ведаў цану архівам. Так, у Вільні былі захоплены амаль поўнасцю ўсе архівы польскіх спецслужбаў. Іх спешна, не паспеўшы як след разабраць, пагрузілі ў вагоны і перавезлі ў Вілейку, бо 10 кастрычніка Вільню перадалі літоўцам.

Праца з польскімі архівамі была метадычная. Так, па стане на май 1941 г. супрацоўнікамі архіўнага ўпраўлення НКВД па Брэсцкай вобласці было складзена «57 856 картак на контррэвалюцыйны элемент, на 9097 агентаў і афіцыйных супрацоўнікаў агентуры, дэфензівы, тайнай палітычнай паліцыі і іншых разведак, 13 345 канфідэнтаў-інфарматараў, 4000 канфідэнтаў-правакатараў, 35 000 супрацоўнікаў дзяржпаліцыі Палескага і іншых ваяводстваў і 27 635 кіраўнікоў і членаў фашысцкіх і белагвардзейскіх палітычных партый, саюзаў і таварыстваў».

Агульную колькасць усёй картатэкі, якая мелася ў архіўным аддзеле ўпраўлення НКВД па Брэсцкай вобласці, складала 220 086 картак! Вядома, столькі агентаў польская паліцыя мець не магла.

У Беластоцкім упраўленні НКВД была складзена картатэка аж на 350 тысяч так званых «падазроных асоб». І так ва ўсіх заходніх абласцях.

Мабільныя, «заточаныя» выключна на выкананне канкрэтных задач, з шырокімі паўнамоцтвамі, на заплеччы Чырвонай арміі, аперчэкгрупы выканалі свае маштабныя задачы.

89 афіцэраў і сяржантаў НКВД атрымалі высокія ўрадавыя ўзнагароды «за выкананне спецыяльных заданняў» на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Аператыўна-чэкісцкія групы перасталі існаваць 2 лістапада 1939 г., калі Берыя выдаў загад №001337 «Аб стварэнні органаў НКВД Заходняй Беларусі», у адпаведнасці з якім былі створаны Упраўленні НКВД па Беластоцкай, Навагрудскай (13 снежня была перайменаваная ў Баранавіцкую), Пінскай і Вілейскай абласцях. 29 лістапада было створана Упраўленне НКВД па Брэсцкай вобласці.

# Што ўбачым і пачуем у Шчучыне?

Іваноўскі, Стацкевіч Цётка — іх трэба абавязкова ўшанаваць на Дні пісьменства — 2015. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Сёлета 7 верасня ў Заслаўі было абвешчана, што наступны Дзень нашага пісьменства адбудзецца ў Шчучыне.

Удалы выбар. З гэтага свята, як і з ганцавіцкага ды глыбоцкага, можа атрымацца памятная падзея.

Калі вядзеш гаворку пра Шчучынскі раён, першае імя, якое прыходзіць на памяць, — Цётка. Паэтка, рэдактарка часопіса для падлеткаў «Лучынка», заснавальніца першых беларускіх школ...

Яна ў літаральным сэнсе слова жыццё сваё паклала за свой люд. Памерла, ратуючы параненых і хворых у час Першай сусветнай.

Мы павінны памятаць, што панна Алёйзія Пашкевічанка, дачка багатага, але, як сведчыў Антон Луцкевіч, малакультурнага шляхціца, прыйшла, а дакладней вярнулася, да свайго народа, звярнулася да яго мовы пад уплывам сына іншага багатага шляхціца — Вацлава Іваноўскага.

Ніхто ніколі не скажа, як так сталася, што падлетак Вацюк Іваноўскі, сын цывільнага генерала, адчуў сябе беларусам. І сваю беларускасць гэты хлапчук не саромеўся дэманстраваць у V варшаўскай гімназіі, якая дала не аднаго вядомага дзеяча польскай дзяржавы.

Не зафіксавана, дзе паніч Іваноўскі і панна Пашкевічанка сустрэліся першы раз. Ва ўмовах паліцэйскага рэжыму шляхта і шляхецкая моладзь выкарыстоўвала для сустрэч і абмеркавання мясцовых і нацыянальных праблем такія нагоды, як хрэсьбіны, імяніны, вяселлі. Не выключана, што Вацлаў Іваноўскі і Алёйзія Пашкевічанка сталі сябрамі пасля аднае з такіх сустрэч. І калі панна Алёйзія пасля вучобы ў Вільні паехала вучыцца ў Пецярбург, там ужо была калонія моладзі з Віленскай губерні, якая пад кіраўніцтвам Вацлава Іваноўскага пачала ствараць першую беларускую палітычную партыю.

Там, у Пецярбургу, у 1902 годзе быў заснаваны і Круг беларускай прасветы і культуры.

Панна Алёйзія, стаўшы беларускай, наварочвала ў сваю новую веру іншых маладых людзей. Так было з Феліксам Стацкевічам. Гэты малады бунтар, атрымаўшы дазвол зноў жыць у сталіцы імперыі, увосень 1902 года ад знаёмага студэнта-паляка з карэннай Польшчы даведаўся, што сярод студэнтаў ёсць група беларусаў. Гэты ж паляк і пазнаёміў яго з беларусамі. «Са здзіўленнем, — успамінаў Стацкевіч, — я ўбачыў сярод іх сына аднаго ўласніка недалёкага ад Шчучына маёнтка — паляка Іваноўскага. Яны тлумачылі, што польская шляхта на Беларусі — гэта спольшчаныя беларусы. Я лёгка згадзіўся з імі і з таго часу стаў беларусам».

Калі аўтар першага беларускага лемантара XX ст. Вацлаў Іваноўскі быў першым беларускім кнігавыдаўцом, заснавальнікам славутай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», дык будучы дырэктар Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны, старшыня Таварыства беларускай школы і адзін з заснавальнікаў часопіса «Беларускі летапіс» Фелікс Стацкевіч у бурныя дні рэвалюцыі 1905—1907 гг. трымаў нелегальную друкарню Беларускай Сацыялістычнай Грамады на Гандлёвай вуліцы ў Менску.

Аганёк (такая была партыйная мянушка Стацкевіча) надрукаваў тысячы ўлётак.

...Праз год на радзіме Вацлава Іваноўскага і Фелікса Стацкевіча будзем святкаваць Дзень беларускага пісьменства.


Іваноўскі.


Цётка.


Стацкевіч.

# Прасцей прыкінуцца дурным

Як у войску п’юць, што такое «пажар» і чаму вучыць ідэолаг. Нататкі рэзервіста. Піша **Аляксандр Пятроўскі.**

**Працяг. Пачатак у «НН» №31, 32, 34.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аўторак, дзень 2-і.**

Сёння пачаліся «заняткі» з выхадам на палігон. Спускаемся ў яр, гушчар. Камузвода прапар М-ў тлумачыць: «Калі камбрыг нас не знойдзе — не бяды, а вось у адваротным выпадку будзе в-я-я-лікі нацяг!»

* * *

Учора ўвечары нас адпраўлялі мыцца. Пасля, разагрэтыя, рушылі на склад атрымліваць цёплую форму, дзе чакалі дзве гадзіны. Настылі і змерзлі, як цуцыкі.

**Чацвер, дзень 4-ы.**

Упершыню трымаў у руках кулямёт і мусіў з яго страляць, не ведаючы нават, як ставіцца вілка. Палкан, які стаяў побач, пачаў нервавацца: «Ты што, хочаш кулямёт зламаць?» Падышоў і адамкнуў тую чортаву вілку. Я расхваляваўся і пасля стральбы не адамкнуў ражок і не адцягнуў затвор для агляду зброі на наяўнасць патронаў. Дзядзька, мацюкаючыся, плюхнуў даланёй па маім кумпале: «Тваё шчасце, што на галаве каска!»

**Субота, дзень 6-ы.**

Учора быў файны дзень. У лесе зладзілі сапраўдны пікнік, смажылі на вогнішчы сасіскі і трушчылі іх з маянэзам. На дарозе на палігон ўдалося збочыць у пасёлак і закупіцца ў краме.

Вечарам быў камедзі-клаб. Са сталоўкі ўзвод вёў шарагоавец Дашч-к. Ён хваляваўся і не мог скамандаваць раз-два пад левую нагу. Пільны лейтэнант За-ц загадаў паўтарыць кола гонару на плацы. Урэшце мы прайшлі яшчэ два разы, бо ўзвод трэсла ад рогату.

Пазней прапар-гоблін Л-с выгнаў рэзервістаў на малы плац і загадаў маршыраваць 20 хвілін. Як яшчэ адзін вечаровы бонус — абвестка, што мыцца будзем толькі ў пятніцу. Атрымліваецца перапынак ў 10 дзён. Вось такая гігіена ...

**Нядзеля, дзень 7-ы.**

Сёння старлей звярнуў увагу на нягеглы стан нашых аблавушак і рэзюмаваў: «Хутка зімовыя галаўныя ўборы будуць рабіць з малярскіх валікаў, а летнія — з паперы». Галеча мала каму пасуе.

* * *

Служба ў рэзерве — сапраўды, прывілей! Чатыры або шэсць месяцаў замест дванаццацівасямнаццаці. Разумею крыўду сяброў, якія вымушаны слухаць мацюкі й пустыя размовы пячорных людзей год.

* * *

Да Юрыя Е. прыехала на выхадных сям’я. Сын пабачыў тату ў бушлаце і назваў яго «мішка Гамі».

**Панядзелак, дзень 8-ы.**

Ідэалагічная апрацоўка на лекцыі. НАТА і Еўразвяз, асабліва Польшча і прыбалтыйскае трыа, — ворагі, а апазіцыя — здраднікі і пятая калона. Прымітыў, разлічаны на дурняў.

**Серада, дзень 10-ы.**

Стральба на палігоне прайшла нармалёва. Бо ўпершыню нікто на нас не мацюкаўся. Афіцэры паводзілі сябе адэкватна. Калі ў маім АК здарылася асечка, адзін з іх спакойна перазарадзіў зброю і з калена адным стрэлам паклаў мішэнь.

**Пятніца, дзень 12-ы.**

Працуем у парку, мыем тэхніку, якая практычнай карысці ўжо не мае, бо састарэлая і не выкарыстоўваецца, апрача некалькіх запускаў на год. Сама сабою тэхніка — дарагі кавалак металу, бо ёсць шмат дызпаліва. Амаль усе афіцэры набываюць дызельныя аўто, бо саляра дармавая. Усё вакол калгаснае, усё вакол маё!

Нарэшце памыліся сёння ў душы. Як мала чалавеку трэба для шчасця!

**Субота, дзень 13-ы.**

Калі швэндаюцца п’яныя ў дым афіцэры, дык чаму б не прыкласціся да пляшкі дзядам і рэзервістам? Усе вакол п’яныя і задаволеныя. Калі чую «войска зробіць з вас сапраўдных мужчынаў», кажу як Станіслаўскі: «Не веру!»

**Панядзелак, дзень 15-ы.**

Чытаюць лекцыю пра Хатынь. Кацяць бочкі на ўкраінцаў як нацыю. Дзяржаўныя ідэолухі коса пазіраюць на аранжавую суседку.

* * *

Сёння спатрэбіліся мае веды па гісторыі на ідэалагічных занятках, калі патлумачыў афіцэрам, што другой у свеце пасля амерыканскай была Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791 года, а не французская, як значылася ў лекцыі. Даўгалыгі лейтэнант Ч-а, які набіраў лекцыю, прыбег і кажа: «Кто сказал? Десять суток ареста!» Паказаў сваё невуцтва, а прызнаць не можа. Побач камандзір мінамётчыкаў чытае тую ж лекцыю. «Гэта не дакладныя звесткі, зараз наш гісторык вам раскажа», — кажа яму мой камузвода. Падыходжу і распавядаю. «А почему на белорусском языке?» — пытаецца. Я нічога не адказваю на запыт, таму што стаміўся тлумачыць.

**Аўторак, дзень 16-ы.**

На палігоне нас накрывае снежная віхура. Холад яшчэ больш адчуваецца на пусты страўнік: паміж сняданкам і абедам 7 гадзін. А ў нядзельным выпуску «Наши новости» распавядаць пра нормы вайсковага харчавання. Пералік з мяса, рыбы, яек, гародніны, сокаў і малочных прадуктаў не стасуецца з нашым меню. Пра новыя мадэлі формы і абутку лішне казаць.

**Чацвер, дзень 18-ы.**

Сёння былі заняткі па выбуховай справе. Узрывалі капсуль-дэтанатар і тратылавую шашку. Лейтэнант нагадаў пра меры бяспекі, а на практыцы паказаў, якая моц выбуху ў дэтанатара памерам з батарэйкупальчык: у 2-міліметровай сапёрнай рыдлёўцы ўтварылася дзірачка. Пальцы, а то і ўсю далонь адарвала б цалкам.

Мае пальцы ад холаду скурчанелі, не мог нават кнот запаліць. Лейтэнант нервуецца, а саслужбоўцы супакойваюць яго, бо ведаюць маю «хваробу». Таму спачатку кнот запальваю я, а потым па камандзе афіцэра ўсе астатнія. Кідаем, адбягаем, выбухі, слупкі дыму. Без здарэнняў, усе жывыя і здаровыя. Лейтэнант такі кажа: «Хлопцы, пабудзьце дурнямі паўтара месяца і едзьце дахаты жывыя і здаровыя, бо акрамя родных вы нікому не патрэбныя».

**Субота, нядзеля. Дні 20-ы і 21-ы.**

Вечарам у казарме было багата п’яных. Дзяжурны выклікаў ротнага, выцягнуў з-за святочнага стала (у жонкі дзень народзінаў). Ён пашыхтаваў рэзервістаў на плацы і абвесціў: «Газы!» Бяжым у казарму, нацягваем адгазнікі, выбягаем на малы плац і «матаем» па ім кругі. Зноў шыхтуемся, ротны асыпае нас порцыяй мацюкоў і дае другую каманду: «Пажар!» Праз вокны з першага паверха выцягваем койкі і тумбачкі. З другога паверха эвакуацыю ажыццяўляюць тэрміновікі. Усё майно расстаўляем на плацы адпаведна з парадкам у казарме. Раўняем дужкі коек, палоскі на коўдрах і падушкі, нацягнуўшы нітку. Сыпе дробненькі дожджык. Старлей зноў шыхтуе нас і мяшае з зямлёй. «Быдла» — найлепшае слова, якое зляцела з яго вуснаў.

А ў гэты час п’янтосы-рэзервісты на чале з прапаршчыкам Швайб-м пасопваюць у капцёрцы. За іх адказ трымаюць астатнія, бо такое яно, вайсковае выхаванне — калектыўнае, справядлівае, асэнсаванае. Новы загад: цягам паўгадзіны зацягнуць усё ў казарму.

Ужо каля поўначы працвееразелы ротны тлумачыў свае захады неабходнасцю. Сапраўды, а як гэтыя лбы інакш выхоўваць?! Але не забыў прыгразіць патэнцыйным скаржнікам новымі прыгодамі. Выслухалі — і пад вільготныя коўдры спацькі.

Але інцыдэнт на гэтым не скончыўся. Назаўтра на вячэрнім разводзе дзяжурны палкан сказаў: «Вы — калхознікі з вышэйшай адукацыяй, прыехалі сюды на месяц пажэрці, паспаць, пас...ць...» Уражанне, што цябе палівае брудам нейкі арыстакрат-нобіль...

* * *

У Дзень народзінаў амаль кожны з узвода дорыць свайму таварышу прэзент — кавалачак масла вагою 15 грамаў. Падарунак трэба з’есці на месцы, у сталоўцы. А часам гэта цэлы паднос. Мой зямляк з’еў 28 «шайбаў», і гэта не рэкорд. Калі адмаўляешся есці, масла кідаюць у аблавушку, насоўваюць табе на галаву і прыхлопваюць зверху далонню пад усеагульны рогат. Вось такія забавы. Скажаце, уся дурната ад бяздзеяння...

* * *

Сяджу ў прыбіральні. Заходзіць дзяжурны-рэзервіст і кажа: «Не бросайте на х.. бумажки, я только что урны вынес!» Кажу яму: «А без матов можно?!» — «А ты что, интеллигент?» — «Не, — кажу, — я такое же быдло, как и ты». Гэтыя словы знімаюць узніклую напружанасць, быццам цэбар сцюдзёнай вады. «И правда, нас же назвали быдлом и колхозниками...»

* * *

Бегчы па асфальце вакол часці прыемна. Пачуваешся вольным! «Сонца ў вочы, вецер у твар, бяжы, бяжы хлопец...»

**Панядзелак, дзень 29-ы.**

Хварэю, але займаюся самалячэннем, бо паход у медроту можа сумна скончыцца.

* * *

Наш Сярожа — унікум. Паскардзіўся маці, што няма споднягa неабходнага памеру. Маці не марудзіла і патэлефанавала ў штаб часці... Сярожу даймаюць, зрабілі аб’ектам кпінаў. Мне ж ён адпачатку нагадаў вояку Швейка. Я не памыліўся. На крытыку Сярожа неяк прызнаўся: «Хай думаюць, што я дурны. Так прасцей».

**Аўторак, дзень 30-ы.**

Сёння, 1 красавіка, Дзень дурня. Перад вячэрняй паверкай у роту нечакана завітаў палкан Зац-ка. Яго цікавіла присутнасць афіцэраў і кантрабасаў (контрактнікаў). Як выявілася, наш камбат быў п’яны ў дым. Некалькі няўдалых спроб перамахнуць з наскоку бетонную агароджу часці яскрава гэта пацвярджаюць. Нарэшце, даўмеўся выйсці праз брамку КПП і пабрыў дадому. Вось і давядзі пасля такога салдатам, што піць — дрэнна.

**Чацвер, дзень 32-і.**

Ідзём на палігон здаваць нарматывы, генеральная рэпетыцыя, таму што праз тыдзень здаём экзамены. Гэтая прафанацыя ладзіцца з адзінай мэтай — прадухіліць папойку ў першай роце перад звальненнем.

**Субота, дзень 34-ы.**

Нас пакінулі яшчэ на тыдзень. На тое было некалькі прычын: рэзервістаў цэлая рота і дапамога на палігоне лішняй не будзе, а працуем мы не горш за салдацікаў тэрміновай. Тэрміновых можна зразумець: іх даўно заганялі.

**Аўторак, дзень 37-ы.**

На вечаровым разводзе ротны зачытвае прозвішчы вяяк, якія застаюцца «адпрацоўваць гадзіны прапушчаных заняткаў». Сярод іх — Юра з Паставаў. Несправядліва, бо ён ездзіў на пахаванне загінулай у аварыі цёткі. Застаюцца і тыя, хто лекаваўся ў медроце, а вось алкашы-залётнікі паедуць у час. Няма праўды на свеце...

**Серада, дзень 38-ы.**

Па абедзе ідзем у Дом афіцэраў на канцэрт. На ідэалагічным дакладзе, што папярэднічаў канцэрту, пекная жанчынка-афіцэр завяла гаворку пра дэструктыўныя элементы, і я чакала пачуў жахалку пра адмарозкаў з Маладога фронту, эма, рыцараў, байкераў (засталася толькі падняцца і абвесціць на ўсю залу: «Я адмарозак! Я!»). Афіцэр напярэдзе шэпча: «Этот, Дашкевич, говорят, раньше бухал по-чёрному, а потом пошёл в оппозицию». А лектарка гнула тэзу пра шкодны ўплыў Захаду і чужыя «нам» (дакладней ім — хамам і дармаедам, што так баяцца беларусізацыі) каштоўнасці. Потым выступалі графаманы з праўладнага Саюза пісьменнікаў. Адзін з іх дэкламаваў агіткі, прасякнутыя савецкім патрыятызмам (Радзіма — «ад Брэста да Уладзівастока», а чытанне завяршаецца: «Я — русский, Иванов!»).

Пасля была фанера Паліны Смолавай. Зноў «на карандаш» трапляюць афіцэры: «Пойду к сцене, надо этой п... цветы вынести».

**Чацвер, дзень 39-ы.**

Дзень звальнення чарговы раз паказаў, што ніякай салдацкай салідарнасці няма. Загадалі рэзервістам набыць у краме заводскага вырабу вешалкі замест саматужных з тоўстага дроту, выдадзеных на складзе ў першы дзень. І замест таго, каб культурна пасляць складскіх пацукоў, рванулі набываць гэтыя распялкі. Сказалі б усе «не», і што б камандаванне зрабіла? Не выпусцілі б нас з часці? Ха-ха-ха.

Прыгадаўся дыялог з «Маўглі»: «Дурныя! Яны забыліся закон джунгляў! Кожны сам за сябе».

Менавіта сённяшні факт стаў апошняй кропляй, пасля чаго я даў сабе абяцанне апублікаваць пра гэтыя зборы кнігу-дзённік. Што ж, час пакажа, бо аўтар — вялікі гультай і рэдка даводзіць задуманае да канца.

*Працяг будзе.*



Пры штурме Савур-Магілы на Данбасе расійскія сілы ператварылі яе ў руіны.




Алег Косак з вёскі Забор’е, што ў Вілейскім раёне, разам з сынам і дачкой сабралі каля 750 баравікоў.

Гэты год унікальна багаты на грыбы. Было столькі белых! А цяпер пачаліся зялёнкі. Іх таксама не перабраць. «Мальцы!!! Сёння паехаў нібыта за баравікамі. А напаў на зялёнкі. Мама родная!!! Хоць трымер з сабой бяры! Колькі жыву — такога не бачыў», — напісаў нам наш чытач Уладзімір Скрабатун з Глыбокага.

## Карыкатура







Жанчына вядзе казу ў хлеў у мінскім мікрараёне Чыжоўка. Тут месціцца невялікі ўчастак прыватнага сектара, на які паступова насоўваюцца шматпавярховыя дамы.

## Анекдоты і жарты

* * *

Радня прааперананага пацыента ўручае хірургу ганарар:

— Доктар, ён жыць будзе?

Хірург (пералічыўшы грошы):

— Пакуль што не...

* * *

Рабіновіч сустракае Ізю:

— Ізя! Сто гадоў цябе не бачыў! Дзе ты, як ты?

— Ды я фрылансер.

— Ой, ну навошта гэтыя панты?! Кажы прама — беспрацоўны!

— А ты як?

— Ну, у мяне свой бізнэс.

— Сёма, ну нашто гэтыя панты?! Кажы прама — спекулянт!

* * *

Бясплатная медыцына ў Беларусі пачынаецца з платных бахілаў у фае бальніцы.

## Падслухана

У Швецыі выбары, на Шведскім радыё перадаюць гутарку з бабулькай.

— Ці збіраецеся Вы галасаваць?

— Не.

— А чаму не?

— Бо я такая старая, што магу памерці ў любую хвіліну, і гэта несправядліва ў адносінах да астатніх, што мой голас паўплывае на вынік выбараў. І мяне не цікавіць, што будзе пасля мяне.

**Дзмітры Гурневіч**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Два месяцы вайны.** Быў момант, калі здавалася, што немцы забяруць сталічнае места Францыі — Парыж. Быў момант, калі яны стаялі за 40 вёрст ад Парыжа і маніліся восьвосьувайсці ў яго. Але французы, якім памагае Англія, узмацаваліся. І вось ужо дзве нядзелі б’юцца безупынна на адным месцы.

**«НН». 18 верасня 1914**

**Што з Ючшанкам.** Стан лідара ўкраінскае апазіцыі, атручанага 9 верасня, застаецца няпэўным. Штаб кандыдата два тыдні хаваў інфармацыю пра ягонае здароўе, каб не зрываць выбарчай кампаніі, пакуль В.Ючшанка знаходзіўся ў шпіталі ў Вене. 18 верасня ён перарваў лячэнне, каб выступіць у Кіеве на 70-тысячным мітынгу, але трымаўся ён блага: нерв тваре застаецца паралізаваны, самаадчуванне кепскае — як вынік крывацечных эрозій у страўніку, паражэнняў тоўстае кішкі і скуры.

**«НН». 24 верасня 2004**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»: З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Тацццяна Кур’ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 16.09.2014.
Замова №3707.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 14035